Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 37 (4837) 18 верасня 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з 95-годдзем з дня заснавання. «Мінулыя дзесяцігоддзі сталі для тэатра імя Янкі Купалы часам творчых адкрыццяў, пошуку ўласных мастацкіх шляхоў, выхавання пакаленняў выдатных акцёраў і рэжысёраў. Дзякуючы майстэрскаму ўвасабленню айчыннай літаратурнай спадчыны Купалаўскі тэатр стаў адным з культурных сімвалаў нашай краіны», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка правёў сустрэчу з віцэпрэзідэнтам Камітэта Марка Шагала, унучкай мастака Мірэт Меер, якая распавяла пра дзейнасць Камітэта Марка Шагала, планах па правядзенні ў Францыі ў кастрычніку шэрагу буйных культурных мерапрыемстваў, прысвечаных спадчыне сусветна вядомага творцы. Павел Латушка паведаміў пра захады беларускага боку па папулярызацыі творчай спадчыны славутага мастака ў Беларусі.

✔ Міністр абароны Славакіі ўзнагародзіў пісьменніка Анатоля Дзялендзіка юбілейным медалём «70 год славацкага нацыянальнага паўстання» за стварэнне ў 1972 годзе сумеснага савецка-чэхаславацкага фільма пра Яна Налепку «Заўтра будзе позна».

✔ Ганаровае званне «Мінчанін года» прысвоена 13 жыхарам сталіцы. Урачыстая цырымонія ўручэння ўзнагарод адбылася ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета. Званнем «Мінчанін года» ў галіне культуры ўганараваны старшы выкладчык кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Канстанцін Касцючэнка.

✔ Амаль 250 дэлегатаў з розных рэгіёнаў краіны сталі ўдзельнікамі IV Форуму бібліятэкараў Беларусі «Гуманітарна-асветніцкая дзейнасць бібліятэк у кантэксце агульначалавечых каштоўнасцей і беларускай дзяржаўнасці». Падчас пленарных і секцыйных пасяджэнняў былі абмеркаваны прыярытэты развіцця бібліятэчнай галіны, роля кніжніц у захаванні культурнай спадчыны нацыі і інш.

✔ У праграму ігравога кіно мінскага XXII Міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» уключана дванаццаць фільмаў. Журы асноўнага конкурсу ўзначаліць расійскі рэжысёр Вадзім Абдрашытаў. Галоўнай пляцоўкай прагляду па традыцыі стане кінатэатр «Цэнтральны».

✔ Пастаянная экспазіцыя Гарадской мастацкай галерэі народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, кавалера ордэна Францыска Скарыны, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Леаніда Шчамялёва адкрылася па новым адрасе ў Верхнім горадзе ў Мінску. 60 карцін, падораных сталіцы майстрам у 2003 годзе, сталі даступнымі для больш шырокага кола гледачоў.

ISSN 0024-4686



# Вандроўныя шэдэўры



*Васіль Паленаў «Маскоўскі дворык». 1877 г.*

Чытайце на стар. 16

## Дайджэст

• Супрацоўнікі Маскоўскага бібліятэчнага цэнтра прапанавалі арганізаваць па ўсім горадзе стэлажы буккросінгу, перадусім — у грамадскім транспарце. Неабходныя дакументы ўжо скіраваныя кіраўніцтву транспартнага комплексу Масквы. Што да метро, першы кніжны стэлаж размесціцца на станцыі «Бібліятэка імя Леніна».

• Амерыканскія дызайнеры зноў цешаць аматараў літаратуры. Флора Чэн стварыла серыю арыгінальных чайных сумесяў, смак якіх асацыіруецца з пэўным творам. Так, спалучэнне мяты, какоса, ананаса і манга мусіць перадаць настрой «Алісы ў краіне цудаў» Кэрала, зялёны чай з малінамі, чарніцамі, яблыкам ды слівай — «Вялікага Гэтсбі» Фіцджэральда. На думкі пра «Лаліту» Набокава мусіць навесці чай з яблыкамі, апельсінамі, смажаным гібіскусам і карыцай. І, вядома ж, не абышлі ўвагай Шэрлака Холмса: ён, на думку Флоры Чэн, п'е даўкі чай з бергамотам, ванілляю і апельсінам.

• Назвы для 17-ці вуліц мусяць прыдумаць гродзенцы: новыя вуліцы ў Забалаці і Ласосна застаюцца безназоўнымі. Пакуль што тапанімічная камісія прапануе для назваў прозвішчы Герояў Савецкага Саюза, удзельнікаў абарончых баёў за горад і ваколіцы. Прапановы можна накіроўваць у аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага гарвыканкама.

• Свята пецярбургскіх фантанаў, якое праходзіць штогод 11 і 12 верасня, сёлета асабліва здзівіла гледачоў: арганізатары падрыхтавалі мультымедыйны музычны спектакль. На фасадзе Пецяргофскага палаца ажылі вядомыя ўсім персанажы Чэхава, Пушкіна, Дастаеўскага... Галоўнай задумай праекта было паказаць развіццё рускай літаратуры ад вытокаў да сучаснасці.

• Тэатральны прадзюсар Джуліус Грын атрымаў доступ да прыватных архіваў Агаты Крысці і знайшоў дзесяць раней не друкаваных твораў. Гэта драматычныя тэксты, сярод якіх ёсць першапачатковы варыянт тэатралізацыі рамана «Час нуль» (1945 г.), напісаны за адзінаццаць гадоў да вядомай версіі. Таксама ў архіве знойдзеная асабістая перапіска Агаты Крысці. Творы абяцаюць апублікаваць у самым хуткім часе.

• Сінайскі кодэкс — найстарэйшая ў свеце Біблія, час стварэння якой сягае да IV стагоддзя. У Еўропу рукапіс трапіў у 1844 годзе, пасля чаго асобнымі старонкамі разышоўся па калекцыях розных краін, збольшага — Вялікабрытаніі, Германіі і Расіі. Сёлета заканчваецца праект, які даў магчымасць кожнаму пазнаёміцца са старажытным пісаннем, — «Сінайскі кодэкс». Праект працуе з 2008 года і скіраваны на высакаякаснае сканаванне з мэтай віртуальнага аб'яднання рукапісу. Падрабязна пазнаёміцца з ім можна на сайце *http://www.codex-sinaiticus.net/ru*.

• Славенскі фэст *MENT Ljubljana*, што пройдзе ў Любляне 3 — 5 лютага 2016 года, запрасіў да ўдзелу беларускіх музыкаў. Арганізатары распавялі, што бачылі беларускіх артыстаў сёлета на фестывалі *Tallinn Music Week* і былі ўражаныя іх узроўнем. Заяўкі чакаюцца ад музыкаў, што граюць рок, індзі і электронную музыку (да 14 верасня).

• У Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў 23 верасня адкрыецца выстаўка «Паланэз», прысвечаная 250-годдзю з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. Будзе прадстаўлена каля 250 работ больш як 60 аўтараў. Усе работы аб'ядноўвае прыналежнасць да беларускай школы выяўленчага мастацтва.

## Сугучча

# Абай, Купала і Колас — класікі яднаюцца

**Мастацкім праблемам судакранання краін і народаў была прысвечана размова, якая адбылася ў канферэнц-зале Выдавецкага дома «Звязда».**

Суразмоўцы з Алматы і Мінска тэмай дыскусіі выбралі наступныя абсягі: «Казахстан — Беларусь: літаратура як шлях адзін да аднаго». Удзел у «круглым стале» прынялі галоўны спецыяліст Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Аўэзава Камітэта навукі Міністэрства адукацыі Казахстана кандыдат філалагічных навук Святлана Ананьева, намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Алена Мальчэўская, рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Полымя» Юлія Алейчанка, перакладчыца Ірына Качаткова, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

Кола пытанняў, якія абмяркоўваліся: «Беларуска-казахскія літаратурныя зносіны: традыцыі, сучаснасць, перспектывы», «Рэсурсы літаратурна-мастацкай перыёдыкі Казахстана і Беларусі ў знаёмстве з нацыянальнымі літаратурамі», «Як і з чым з іншанацыянальнай палітры мастацкага слова дайсці да чытача? Якія творы варта перакладаць у першую чаргу? Ці могуць у вызначэнні кірункаў перакладчыцкай дзейнасці паспрыяць літаратурная крытыка, літаратуразнаўства?», «Параўнальнае літаратуразнаўства: ці можа яго развіццё паўплываць на пашырэнне чытацкай, гісторыка-літаратурнай, літаратуразнаўчай прасторы нацыянальных літаратур? І каго з кім у казахскім і беларускім прыгожым пісьменстве можна параўноўваць?»

Падрабязны расповед пра беларуска-казахскі «круглы стол» у «Звяздзе» — у найбліжэйшы час на старонках газеты «Союз Евразия», якая выходзіць у «Звяздзе», а таксама — на партале *www.sozvuchie.zviazda.by*.

**Сяргей ШЫЧКО**

## З нагоды

# Гармонік поштай

**Падчас святкавання Дня горада Літаратурны музей Максіма Багдановіча прапанаваў маленькім і дарослым наведвальнікам адмысловыя мерапрыемствы.**

Для гасцей музея была падрыхтавана цікавая неспадзяванка — экспазіцыя паштовак канца XIX — пачатку XX ст. з выявамі пазнавальных будынкаў Мінска. Музей мае багатую калекцыю паштовак, многія з якіх атрыманыя ад сваякоў Максіма Багдановіча і аматараў яго творчасці.

Унікальным экспанатам стала рэдкая паштоўка «Привѣтъ изъ Минска» (1913), якая разгортваецца гармонікам. Па арыгіналах паштоўкі маленькія наведвальнікі зрабілі ўласныя віншавальныя карткі, дзе намалявалі самыя прывабныя мясціны сучаснай сталіцы. Падчас імпрэзы адбыўся паказ батлейкі, а ў дадатак да паштоўкі дзеці зрабілі з тканіны маленькіх анёлаў-ахоўнікаў Мінска.

Увечары з аншлагам прайшоў канцэрт музычнага калектыву «Нельга забыць», дзе таксама не абышлося без згадак пра Мінск і Максіма Багдановіча. Дзякуючы музею Дзень горада стаў святам для людзей рознага густу і мастацкіх прыхільнасцей.

**Янка НАТАВЕЦ**

## Прынятыя ў СПБ



**Валерый Антонавіч АЛЕШКА**

*Секцыя прозы*

Нарадзіўся 2 лютага 1940 года ў Ленінградзе. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічаў на Віцебшчыне і Брэстчыне, працаваў у Рэспубліканскім вучэбна-метадычным кабінеце Дзяржпрафадукацыі БССР, пасля — у часопісах «Политический собеседник» і «Гермес», намеснікам дырэктара інфармацыйна-выдавецкага прадпрыемства «Петыт». Аўтар дакументальных аповесцей «Тебя отвергают свои» (Смаленск, 1998) і «Претерпевшие до конца» (2000), кніг «Узнавая отца» (2005), «Дорогами войны» (2008), «Учёный человек» (2008), «Крылья» (2011).



**Аксана Мікалаеўна ЯРАШОНАК (КАМІНСКАЯ)**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 11 ліпеня 1982 года ў г. Маладзечне Мінскай вобласці. Скончыла Маладзечанскае прыборабудаўнічае ПТВ № 87 і факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Працуе педагогам-арганізатарам у Ільянскай сярэдняй школе імя А. А. Грымаца (вёска Ілья Вілейскага раёна Мінскай вобласці). Аўтар зборніка вершаў і паэтычных перакладаў «Славянской боли кружева» (2013) і кнігі лірыкі «Звычайнае шчасце» (2015).

## Імпрэзы

# У лесаводаў — гімн

**Работнікі лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь сёлетняе прафесійнае свята, якое традыцыйна адзначаецца ў трэцюю нядзелю верасня, сустракаюць з уласным гімнам. Якраз напярэдадні былі падведзены вынікі галіновага конкурсу: удзельнічала каля 30 праектаў!**

У якасці афіцыйнага зацверджаны гімн, тэкст якога напісаў Анатоль Зэкаў, а музыку — кампазітар, заслужаны артыст краіны Леанід Шурман. Дыпломы і каштоўныя падарункі — ноўтбукі — пераможцам уручыў міністр лясной гаспадаркі Міхаіл Амельяновіч. Сімвалічна, што гімн у выкананні Дзмітрыя Гайдукова ўпершыню прагучаў у Палацы Рэспублікі падчас урачыстасцей з нагоды прафесійнага свята лесаводаў.

Анатоль Зэкаў, які напрыканцы мінулага года ўдастоены звання ганаровага грамадзяніна Буда-Кашалёўскага раёна, у свой час узначальваў галіновую «Беларускую лясную газету» і менавіта тады стварыў тэкст яшчэ аднаго гімна — для Буда-Кашалёўскага аграрна-тэхнічнага каледжа.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**20 верасня** — на літаратурна-музычнае свята, прысвечанае 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства ладзіцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (пр. Пераможцаў, 8). Пачатак а 15-й гадзіне.

**22 верасня** — у Мінскі гарадскі навучальна-аздараўленчы цэнтр «Лідар» (г. п. Ждановічы) на літаратурнае свята «Агмень душы — нязгасная лампада» з удзелам членаў навукова-асветніцкай экспедыцыі «Дарога да святыняў». Пачатак а 15-й гадзіне.

**23 верасня** — у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік — пісьменнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 15-й гадзіне.

**24 верасня** — на пасяджэнне студыі мастацкага чытання «Вобраз», якое пройдзе ў СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Кіраўнік — пісьменніца Наталія Касцючэнка. Пачатак а 13-й гадзіне.

**24 верасня** — у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70) на музычна-паэтычнае свята, прысвечанае новаму навучальнаму году. Пачатак а 14-й гадзіне.

# І ажылі героі твораў…

**З 2 па 6 верасня ў Маскве праходзіла XXVIII Маскоўская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш.**




На нацыянальным стэндзе «Кнігі Рэспублікі Беларусь» былі прадстаўлены выданні вядучых дзяржаўных выдавецтваў Беларусі. Сярод іх — экспазіцыя РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"». Апрача стацыянарнай экспазіцыі прадстаўніцтва выдавецкага дома ладзіла прэзентацыі і сустрэчы з аўтарамі. Адным з такіх мерапрыемстваў стала сустрэча з Наталляй Ігнаценка, чые кнігі пабачылі свет у Выдавецкім доме «Звязда».

Падчас сустрэчы аўтарка прэзентавала свае зборнікі «Размова пад зорным небам», «Казачныя вандроўкі з прыгодамі», «Як два браты спартсменамі сталі», «Як два браты этыкет вывучалі». Акрамя звыклай вуснай прэзентацыі, гледачы убачылі сапраўднае прадстаўленне: для сустрэч з маленькімі чытачамі Наталля Аляксандраўна змайстравала інсталяцыі па сюжэтах сваіх казак. З дапамогай інсталяцый героі твораў ажывалі, а падзеі набывалі большую рэалістычнасць. Цікаўнасць да мерапрыемства і, адпаведна, творчасці аўтаркі праявілі і малышы, і дзеці сярэдняга школьнага ўзросту, і іх бацькі.

**Наталля КАРАСЁВА,**
**фота аўтара**

# Мінск па-новаму

**У жніўні ў сталіцы праходзіў інтэрактыўны праект «Пішам Мінск» па стварэнні калектыўнага аповеду «Дух Мінска». Чатыры тыдні запар, кожны аўторак, трынаццаць суаўтараў праекта збіраліся разам, каб выказаць ідэі і меркаванні. У выніку атрымаўся аповед, героі якога блукаюць па горадзе і шукаюць прыгод. Куратары праекта Вікторыя Хоміч і Вольга Воўк арганізавалі экскурсію па ўзгаданых месцах, якую правяла экскурсавод Яўгенія Быц.**

Узяць удзел маглі ўсе, хто своечасова зарэгістраваўся на сайце праекта. Але, па словах арганізатараў, жадаючых прыйшло значна больш. Студэнты, дарослыя з дзецьмі, закаханыя пары — усім было цікава прайсці па шляху галоўных герояў аповеду і даведацца новыя, невядомыя факты пра, здаецца, такі знаёмы горад.

Экскурсія пачалася ў Аляксандраўскім скверы ля фантана «Хлопчык з лебедзем». Менавіта тут героі аповеду Касцік і Наста атрымалі свае першыя падказкі ў пошуках духу Мінска. Тым часам Яўгенія Быц расказвала гісторыю сквера і фантана (фантан «Хлопчык з лебедзем» у народзе называюць «Панікоўкай», у гонар героя культавай кнігі «Дванаццаць крэслаў» Панікоўскага). Далей экскурсія працягнулася ля Дома афіцэраў. Ніхто не ведаў, што Дом афіцэраў стаіць на падмурку царквы, а танк каля яго — зусім не той, што вызваляў Мінск. Парк імя М. Горкага, раней Губернатарскі парк. Тут экскурсавод расказала, што яшчэ сто год назад пажарным не плацілі заробкі — гараджане самі ратавалі гарады ад пажараў, і гэта была справа гонару. А якраз у Парку імя М. Горкага добраахвотнікі-пажарныя праводзілі заняткі фізкультурай і залівалі каток для жыхароў горада. Наступны містычны, паводле аповеду, аб'ект — Беларускі дзяржаўны цырк. Самыя цікавыя і інтрыгуючыя моманты адбываліся з галоўнымі героямі менавіта ў гэтым месцы. Ля цырка Яўгенія паведаміла гісторыю будынка, які ўзвялі ў 1959 годзе. Першапачаткова ён задумваўся на ўскраіне, і толькі дзякуючы намаганням опернай прымы Ларысы Александроўскай стаіць у цэнтры горада.

Экскурсія працягвалася ў Верхнім горадзе. Яўгенія расказвала гісторыі рынкаў старога Мінска. Не ўсе ведаюць, што назва «Камароўка» паходзіць зусім не ад слова «камары», а ад слова «камора» («каморка», «склад»). Ад Верхняга горада — на назіральную пляцоўку, якую многія называюць сэрцам Мінска.

Экскурсія скончылася. Усе, як і героі аповеду, адчулі блізкасць да свайго горада і адзін да аднаго. Дух Мінска — у людзях. Менавіта людзі ствараюць атмасферу горада. Куратары праекта «ПішамМінск» Вікторыя Хоміч і Вольга Воўк паабяцалі ў хуткім часе зладзіць новыя цікавыя праекты для аматараў чытання.

**Вікторыя АСКЕРА**

*За падзеяй*

# На памяць ведаюць!

Вынікі конкурсу юных чытальнікаў Гродзенскай вобласці «Жывая класіка» і рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай» былі падведзены падчас святкавання Дня беларускага пісьменства.

Сёлета конкурс праходзіў пад патранатам часопісаў «Маладосць» і «Бярозка» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Выдавецкага дома «Звязда» і Гродзенскага аблвыканкама. Віталі фіналістаў міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Луцкі, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Шчучынскага райвыканкама Сяргей Каспярчук, дзіцячыя пісьменнікі Яронімас Лауцюс (Літва) і Уладзімір Ліпскі.

У конкурсе «Жывая класіка» ўдзельнічалі навучэнцы школ і гімназій з розных куткоў Гродзеншчыны. На шчучынскае свята прыехалі 23 яго фіналісты, сярод якіх найбольш уразілі самыя юныя — 6-гадовая Дар'я Дубкова (Карэліцкі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі) ды 8-гадовая Аляксандра Ашэйчык (гімназія № 1 г. Іўе).

У ліку адзначаных дыпломамі Міністэрства інфармацыі за актыўную прапаганду кнігі і чытання — ААТ «Белкніга», старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ Людміла Кебіч, гродзенскія дзіцячыя пісьменніцы Таццяна Сучкова і Ганна Скаржынская-Савіцкая, загадчыкі аддзелаў Выдавецкага дома «Звязда» Вольга Аляксеева, Наталія Карасёва і Алена Міхайлічэнка, а таксама супрацоўнікі гродзенскіх бібліятэк.

***

Падчас творчага візіту ў нашу краіну, прымеркаванага да сёлетняга Дня беларускага пісьменства, сербскі паэт і перакладчык Слабадан Вуканавіч, літоўскі дзіцячы пісьменнік Яронімас Лауцюс і намеснік галоўнага рэдактара расійскага літаратурнага часопіса «Наш современник» Аляксандр Казінцаў наведалі Мінскую абласную бібліятэку імя А. С. Пушкіна.

Доктар філалагічных навук прафесар Іван Чарота падкрэсліў: Беларусь імкнецца да міжнароднага супрацоўніцтва ў фармаце дружбы. Аляксандр Казінцаў распавёў пра структуру, спецыфіку, напаўненне і найбольш папулярных аўтараў часопіса пяці пакаленняў «Наш современник», у ліку якіх — Васіль Шукшын, Юрый Бондараў, Валянцін Распуцін. Яронімас Лауцюс характарызуе Беларусь як краіну з высокім узроўнем развіцця прамысловасці, у якой адначасова вельмі запатрабаваная творчасць. У сваёй прамове спадар Яронімас закрануў і праблемы маральнасці. Паэзія ўзрушвае і актывізуе, упэўнены тонкі лірык Слабадан Вуканавіч. Падчас сустрэчы ён распавёў пра «Анталогію беларускай паэзіі», што пабачыла свет у Чарнагорыі. А пры канцы імпрэзы госці адказвалі на шматлікія пытанні публікі.

**Яна ЯВІЧ**

# Акварэльныя фантазіі

**Персанальная выстаўка гомельскай мастачкі Надзеі Рэпінай «Акварэль ад сэрца да сэрца» працуе ў галерэі «Vilnius» бібліятэкі № 18. Прадстаўлена больш як 40 работ: нацюрморты, партрэты, тэматычныя кампазіцыі.**

Надзея Рэпіна — мастачка, ілюстратар і мадэльер. Скончыла Мінскі тэхналагічны тэхнікум і Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны. Акварэллю захапілася ўсяго некалькі гадоў таму, а сёння на яе рахунку ўжо некалькі выстаў у нашай краіне і за мяжой, удзел у шматлікіх конкурсах. Работы творцы знайшлі прыхільнікаў у Расіі, ЗША, Албаніі, Індыі і іншых краінах. Надзея не толькі малюе сама, але і дапамагае раскрыць творчыя здольнасці іншым: кіруе сацыяльна-мастацкім праектам «Акварэльная сесія для пажылых».

Карціны творцы, узнёслыя, летуценныя, прасякнутыя светлым сумам, адразу захапляюць лірычным настроем. У работах няма рэзкіх кантрастаў — лёгкія, амаль празрыстыя мазкі, спалучэнні пяшчотных колераў і адценняў — ружовага, блакітнага, бежавага…

Аснову экспазіцыі склалі некалькі серый. Адна з найбольш цікавых — «Вяртанне блуднай дачкі», у якой аўтар закранае няпростую тэму адносін бацькоў і дзяцей. На карцінах пераплеліся гісторыя і сучаснасць: побач з вядомымі вобразамі (Джаконды, Мадонны, Дамы з гарнастаем ды інш.) можна сустрэць персанажаў з рэальнага жыцця.

Журботны настрой ахоплівае, калі глядзіш на работы з серыі «Адзінота». Аўтар прадставіла ўласныя перажыванні, думкі, асацыяцыі ў кранальных і чулых вобразах, раскрыла тэму адзіноты чалавека ў вялікім свеце.



*«Малюнкі на пяску».*

Партрэты, прадстаўленыя на выстаўцы («Назар», «Лісічка ў дзіцячым прыюце», «Вандроўкі Сафіі з дачкамі» і інш.), вылучаюцца выразнасцю, глыбокім псіхалагізмам. Героі — звычайныя людзі з рознымі характарамі, душамі, лёсамі…

Падчас адкрыцця экспазіцыі ў выставачнай зале панавала ўзвышаная атмасфера, адпаведная настрою карцін. Уласныя вершы прачыталі паэтэсы Валянціна Паліканіна і Людміла Бурдыка, а музычнае афармленне імпрэзы стварыў піяніст Уладзімір Міхельсон. Паводле калег і мастацтвазнаўцаў, карціны творцы прывабліваюць паэтычнасцю, гармоніяй, унутраным светам.

Экспазіцыя працуе да 12 кастрычніка.

**Ганна ПАЛЯКОВА**



## Анатоль ЗЭКАЎ

***

Сцяной абапал вёскі лес.
Здавалася, ёй цесна.
Ёсць і ў мяне лясны замес,
бо й сам я выйшаў з лесу:
з яго гаёў, з яго дуброў,

дзе лёс на голлі гушкаў.
Я звеку свой сярод звяроў
і не чужы я ў птушак.
Былі мае ўсе тут грыбы.
Тут трос я і арэшнік.
Не проста змалку
лес любіў —
у ім і рос я ўрэшце.
Сябе над лесам не ўзвышаў
і ніц не апускаўся.
Штодня ў лес просіцца душа,
і паспрабуй з ёй спраўся.

***

Проста так не бывае нічога,
як ні думай пра тое падчас.
Проста так не прыходзіць
трывога
і бяда не прыходзіць да нас.
Перад тым, калі здарыцца
нешта
(тое нешта заўсёды
няўзнак),
да яго падвядзе штосьці,
зрэшты,
каб усё адбылося вось так.

Проста так — і ніколькі
іначай,
і не болей, не меней,
пры тым
проста так мы ніколі
не плачам,
проста так не смяёмся
зусім.

І хоць дзе ты вышукваў
прычыну,
і карай сябе ў нечым,
аднак
і жывём мы на свеце,
магчыма,
што ў жыцці ў нас не ўсё
проста так.

***

Я перад Музай надта
вінаваты,
што звеку з гарадскіх
кварталаў
вяду яе да той вясковай
хаты,
якая сны мае люляла

і дзе дасюль рыпяць яшчэ
масніцы
пад ціхай бацькавай хадою,
і дзе са студні хочацца
напіцца,
бы прычасціцца той вадою,

дзе ў садзе яблыкі, нібыта
зоркі,
траву падсвечваюць у росах
і дзе ніколі не бывае горка,
бо тут мой лёс з'яднаны
з вёскай.

***

Можа, некалі ўспомніцца
ўсё, што ў нас быць магло,
ды якая ўжо розніца,
як таго не было.

Можа, часам убачыцца
усё тое наноў,
ды як многа зыначыцца
праз сувоі гадоў.

Можа быць, перамелецца
усё тое амаль,
ды нічога не зменіцца
ў нас з табою, на жаль.

### З часам...

З часам шмат што
сціраецца,
ды пад сонцам і поўняй,
што было — забываецца,
не было чаго — помню...

***

А я зусім таго не ведаю
і не здагадваюся, мабыць:
ёсць у жыцці часіна светлая,
што да цябе заўсёды вабіць.

Ці дзень тады, ці ноч
загосціцца —
яна ад часу не залежыць,
хіба адно: заўсёды позніцца
і не заўсёды нам належыць.



## Алена МАСЦЕРАВА

### Пасля стрэчання

Учора сустрэліся зімка
з вясной.
У хаце — грамнічная свечка.
Чакаеш, што прыйдзе,
нарэшце, спакой
І шчасце ў душы будзе
вечным.

Ды штосьці шчыміць
ды шчыміць у грудзях,
І думкі снуюць мітусліва.
Трывожна ўглядаюся ў неба
прасцяг
Ды мару аб хвілі шчаслівай...

***

Не катуй ты мяне, не катуй
Жарам гневу, маўчання
холадам...
Абдымі, прытулі, пашкадуй
І пяшчотным прылашчы
поглядам.

Ты забыў, што ў нас сэрца —
адно,
Што жыццё паасобку —
марнае,
І глядзіш адзінока ў акно,
На свінцовае неба хмарнае.

Хопіць марыць, што будзе
пасля,
Што пазней зажывём
напоўніцу...
Каб любоў не згубіць
спакваля,
Раскатурхай
душу-нявольніцу!

***

Прыляцелі сорак саракоў,
Столькі ж назбіралася
грахоў:
Сум, зняверанасць, распуста,
гнеў,
Роспач, зайздрасць —
злосны д'ябла спеў...
Я малюся, каюся — дарма,
Бо і ў сэрцы, і ў душы —
зіма...
Жаўранку! Прашу,
званчэй спявай,
Грэй маю душу і родны край!

***

Зорнае неба вясны
Ярка зіхціць і весела.
Толькі яно падманнае:
Шчырае,
а халоднае...

Зорнае неба душы,
Быццам гарачым крэсівам,
Быццам агнём, запальвае
Вочы,
такія родныя...

### Камень-следавік

Кажуць, гэта Багародзіца
ступала.
Пакладзі ў слядок
сваю далоньку:
Камень сілы дасць табе —
Усё ж нямала
Праляцела ўжо стагоддзяў,
донька.
Дакраніся — і пры дотыку
адчуеш
Сілу думак, мараў,
спадзяванняў,
Бо маліліся тут вернікі
прачула,
Іх надзеі мелі тут
прыстанне.
...Памаліся ты таксама,
мая донька,
Папрасі, чаго душа жадае,
І няхай твая маленькая
далонька
Цеплыню стагоддзяў
адчувае.

***

Я і дождж. Мы — адно.
То бяжым, то ідзём,
А спыніцца на месцы ніколі
не зможам.
Ці залевай, ці кропляй расы
упадзём
На зямлю, на раллю, на лясы
і на пожні.

Стане чыста і светла...
Мы рушым ізноў,
Паляцім да нябёс,
да іскрыстага сонца.
Мы вясёлкай заззяем,
падорым любоў,
І любоў атрымаем,
і вып'ем — да донца.

### Калі б...

Калі б вярнуць
з табой апошняе спатканне,
Я словы іншыя
знайшла б для развітання.
І не шаптала б:
«Ад'язджайце, адпускаю...»
Сказалі б вусны смела:
«Я кахаю!»

Калі б вярнуць
той наш апошні золкі вечар,
Я моцна-моцна
абняла б цябе за плечы.
Не для таго,
каб ад марозу нам
сагрэцца, —
Каб ты адчуў,
як рвецца маё сэрца.

## Дэбют



Вікторыя Смолка нарадзілася ў Гродне. Студэнтка 3 курса Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Удзельніца шматлікіх творчых конкурсаў і мерапрыемстваў. Прызёр міжнароднага фестывалю рускай паэзіі «Сугучча слоў жывых» у намінацыі «Што помніць свет уратаваны». Друкавалася ў газетах «Гродзенскі ўніверсітэт» і «Знамя юности», у часопісе «Маладосць», у калектыўным зборніку «Поэзия Мегаполиса», у «Православной газете» (г. Курган). Аўтар зборніка вершаў «Зоркаму сэрцу» (Мінск, 2015).

## Вікторыя СМОЛКА

***

Знічаняткі кладуцца на полі
Пад нябесную коўдрай нязолкай.
Сэрца туліць да соннае мроі
Цёплы крыжык дзіцячых далонькаў.

І так ціха аднекуль, бы покліч,
Па рачулцы нябеснай сцякае.
Ад гарачага ззяння намоклі
Краскі поля, і лугу, і гаю.

Мроя сонная сэрцам бяссонным
Заспявала гучней калыханку.
Цёплы крыжык дзіцячых далоняў
Цалаваў яе спевы да ранку...

***

Звонка ў полі шасціць васілёк,
Вочкам сінім мне ў вочы ўглядаецца.
Хіба бачу той позірк здалёк
Ці ўсё проста: мне дзіўнае
марыцца?!

Я Прачыстаю сцежкаю мар
Буду крочыць сягоння і потым.
Толькі плачу, калі чуе твар
Неба цёплага сонечны дотык.

Ад вячэрняе стомы на дол
Захацелася думкам апасці
І паслухаць, як ціха вакол —
Толькі чутна, як дыхае шчасце...

***

Спі, мая самотная песня чысціні,
Ластавак сапранавых галасы
прысні.
Сцежачкі няходжанай стогн
пяску пачуй,
І няхай абудзіцца сонейка ўваччу.

Ціха, мая ранняя, сэрца не нервуй,
Я з галінак-воблакаў зорачак нарву,
Сакаўных агеньчыкаў на далоні дол
Я табе насыплю з кошыка гадоў.

І спляту пялёсткамі браткавай
крыві
Коўдру цёпла-сінюю, каб твой
сон спавіць,
Каб да самай раніцы —
да радзінаў рос —
Музыка чысцюткая плакала
без слёз...

***

За таго, хто назаўсёды нас пакіне,
Плаціць восень залатыя клёну
грошы.
Як ніколі, расстаюся я са жніўнем,
Быццам пойдзе і не вернецца —
апошні.

Як ніколі, са слязы радок крывавіць
І крынічным гукам сее з сэрца думу.
Ведай, летняя, пакуль душа жывая,
Васільковаю фіялкаю ўзрасту я.

Зноў далонькі залатыя гладзяць
неба,
Адлятаюць з цёплым подыхам
стамлёным.
Ведай, мілая, заўсёды светла ведай:
Тут з табой была, а там —
з тваім анёлам...

***

Ведай, добрая, стане лёгка нам,
Ападзе ўсё — і боль, і ліст.
Цёплай радасцю дня далёкага
Сэрца клёнава намалі.

Чуе чулае, бачыць зоркае,
Як званочкам пяюць званы.
Будзе верасень ткаць нам зоркамі
Сцежак жоўтыя дываны.

Будзе мама жагнаць хусцінкаю
Сто магіл ад слядоў штокрок —
Пойдзем, цёплая, той сцяжынкаю,
Дзе сустрэне і прыме Бог...



Фота Кастуся Дробава.

Мікола БУСЬКО

# Шэпты стомленай затокі

Змітрука непрыкметна агарнулі ўспаміны, ён усхвалявана тупаў сюды-туды, перайшоў у пакой, хацелася ўпарадкаваць думкі, пазбавіцца разладдзя, якое несла толькі пакуты. Ён спыніўся перад карцінай, пастаяў каля акна, перавёў позірк на квадратныя месячныя дыванчыкі, што клаліся на падлогу сінімі ўзорамі. Нечакана ўзнікла цікавае рашэнне.

— Хутчэй бы з гэтай гарадской мітульгі на ўсё лета, да першых прымаразкаў. Жыццё ў горадзе заўсёды спешнае — мурашы-пешаходы кудысьці бягуць, а дамы крычаць: «Ціха бяжыш! Хутчэй!» А ў начныя гадзіны сутак — паміж трыма і чатырма досвітку, калі гукі яшчэ глухія, а жахі ночы нарэшце растварающца ў зябкім паветры раніцы, цягне да ракі, да сонца, якога не бачна за вершалінамі лесу, да вечных каштоўнасцей. Спрычыніцца душой да прыроды з такім глыбокім пачуццём любові, адчуць замілаванасць хараством, прабавіць цэлы дзень у слодычным назіранні за ціхім люстэркам вады, у якім адбіваецца празрысты купал, вытканы са светлай рэчаіснасці, зведаць тое, што схавана ад вока гараджаніна. І ў гэтых прыемных дзівосах, у мяккіх пераходах ад светлажоўтых да аранжава-чырвоных тонаў узыходзячага сонца, здаецца, мастак аддаў бы частку жыцця, каб запомніць непаўторны момант захаплення і перанесці яго на палатно.

Ляцець цераз выган за вёску, дзе зноўку прачышчаюць горла трэція пеўні, шыбаваць па лугавіне да раю. Паглядзець, як мае сябрукі-шчупакі ды барсукі сябе адчуваюць? Заўтра ж дзянёк такі светлы, празрысты будзе. А як добра, радасць душу ахапіла, думкі кругам ходзяць, паскараючы пульс.

Наведаць мясціны маленства, пагаманіць з лесам, адведаць раку — кожная сустрэча з ёю заўсёды незабыўная.

Паспяшацца ў выхадны, і гэта пасля працоўнага тыдня — як бухнуцца ў раку цёплым адвячоркам. Цяпер ізноў убачу свой рыбацкі рай, які застаўся мне на схіле сталага веку. На чым іншым буду эканоміць, а для сваіх мясцін, для самага светлага, што ў жыцці засталося, не пашкадую нічога.

Мужчына апусціўся на канапу, ашчаперыў рукамі твар, і ўбачылася яму рэчка маленства, родная вёска, дзе так хутка згасла маладосць. Прыгадаліся бацькі, хатка над рэчкай, зычны клёкат бусла, могілкі над Крутымі Берагамі, помнікі ды крыжы, што патрабуюць малітвы.

Яшчэ з маленства душа Змітрука ўпадабала свае мясціны, імкнулася да спазнання іх непаўторнай прыгажосці. І ўжо беззваротна пакідаючы чужую зямлю, былы спецназавец, прыехаўшы дамоў, уладкаваўся на агрэгатны завод. Стоячы за такарным станком, адчуваў пошум дрэў і шэпт рачулкі. Звычайна ў апошні рабочы дзень пасля начной змены, кінуўшы развітальны позірк на прахадную, бегма мчаўся Змітрук дахаты.

— Калі прыедзеш?

Пытанне завісла над ложкам.

Паходны рукзак напаўняўся рыбацкімі прычындаламі. Бразнула спражка афіцэрскага рэменя. Адпрацаваным бессвядомым рухам вялікіх пальцаў, схаваных пад рэмень, ён выраўняў фалды на камуфляжнай курткі. Запалкі схаваліся ў кішэні. Нагнуўся, каб зашнураваць цяжкія высокія чаравікі, і папраўіў нож, што вісеў пад курткай. Так, цяпер мусіць, усё.

— Не затрымлівайся. Ні пуха ні пяра!

— К чорту!

Ён выпрастаўся і ў знак згоды махнуў галавою. Жонка сядзела на раскіданым ложку і дапытліва пазірала, быццам чакала адабрэння, а зблытаныя цёмныя валасы затулялі яшчэ сонны тварык. Мужчына на нейкі момант нерухома застыў.

— Пастараюся хутчэй, — выціснуў і выйшаў.

Змітрук спехам закінуў заплечнік, ускочыў на ровар і пашыбаваў за вёску. Ён любаваўся ляскам, старанна аб'язджаў дрэвы, каб не турбаваць іх сінія цені. Ружовы пэндзлік промня наносіў першыя мазкі акварэлі, якія цёплай гамай расцякаліся па белым ватмане раніцы.

— Вось гэта карціна — шэдэўр!

Пад'язджаючы да Ушы, Змітрук здзіўляўся хараству наваколля. Сцежкі паміж дрэў засталіся, відаць, ад часоў ліхалецця — пракладзеныя кірзавымі ботамі ды прыціснутыя коламі. Перад ім праплывалі далёкія макаўкі лесу, травы ды кусты каціліся насустрач зялёнымі хвалямі. У лагчыне, пад шатамі альхоўніку, нібы ў казцы, струменіць гаманкая рачулка.

Мацней націскаў на педалі і не заўважыў, як над зялёным покрывам прыбярэжнага лесу, нібыта вітаючы яго, падымалася памаладзелае за ноч сонца. Вось яна, жаданая сустрэча з роднымі мясцінамі ды гаючымі вірамі рачулкі.

— Прывітанне, Уша! — на ўсю моц грудзей выгукнуў Змітрук і, саскочыўшы з веласіпеда, падкасаў калашыны навагавіц, зайшоў у ваду. Набраў поўныя прыгаршчы, пырснуў на твар.

— Ты нейкая горкая!.. Чаму так?..

Змітрук збянтэжана кідаў задумлівыя позіркі на ссечаныя бярозкі, высока спілаваныя хваінкі. Глядзеў з жалем і спачуваннем. «Так, я даўно падазраваў браканьераў у бяздушнасці. З чаго трэба пачаць, каб іх прыпыніць? Чаго дабіваюся? Не, трэба так зрабіць, каб яны зразумелі, дзеля чаго і для каго існуюць законы прыроды». Разважанні не спыняліся: яго довады падзейнічаюць і ён яшчэ дасягне свайго. Чалавек не можа жыць без справы, а для гэтага ўключаецца розум, каб не было сорамна і не давялося адказваць за чужыя правіны.

Тым часам ціхія, ласкавыя парывы ветрыку, што пачуліся ў кустах, гучалі нейкім дакорам. Вады зусім мала, толькі плюхаецца пад ботамі. Ад ранейшай раскошы, што цешыла сэрца, нічога не засталося. Прыцягвалі погляд адно прыбярэжныя клёны.

Паўнаводная калісьці, гуллівая рачушка памірала: стаяла ржавай лужынай паміж высокіх грывастых купін, сплеценых ветрам хмызнякоў.

— Ты ратавала жыцці звяроў, раслін і людзей, — з горыччу вымавіў Змітрук, — а людзі табе чым аддзячылі? Дзе б ні быў я, ніколі не адчуў бы такой прыгажосці, якая была тут калісь, а што цяпер?

Раптам пачуўся траскучы гул матацыкла.

Змітрук падбегам кінуўся ў ельнік.

— Паглядзім, што за пташка.

За рулём сядзеў каржакаваты мужычок



сталага веку. Упоперак грудзіны вісела, як аўтамат, двухстволка. Ён заглушыў матор, саскочыў з сядзення, пабег да берага, пачаў навобмацак адкопваць яму. Затым нешта цяжкае панёс, паклаў на дзяружку, абцягнуў вяроўкай і хуценька прывязаў да багажніка, агледзеўся навокал.

— Вось і ўсё...

У знешнасці чалавека было нешта асаблівае, што прымушала агледзець яго больш уважліва. Зашмальцаваная ватоўка, пацёртыя порткі. Устрывожаныя, глыбока ўціснутыя ў твар вочы. На скуластых упадзінах шчок вытыркалася шчэцце. Крывы, як сук, сіняваты нос, што тырчэў над агрэсіўна сціснутымі, быццам абцугі, губамі, завяршаў каларытны партрэт.

Сумненняў няма: браканьер. Змітрук выйшаў на сцежку:

— Стой!

Чалавек прыпыніўся, але матор лапацеў. Мужчына абвёў сустрэчнага ўстрывожаным поглядам і, пераканаўшыся, што Змітрук не ўзброены, зыркнуў спадылба і выдыхнуў:

— Што, заблудзіўся, мусіць?

— Спачатку трэба вітацца пры сустрэчы, — заўважыў Змітрук. — Пакажыце паляўнічы білецік, калі ласка, ці іншы дазвол. Мне вядома, што паляўнічы сезон яшчэ не пачаўся, так?

— А ты хто ж такі?! Білецік яму!.. — ад злосці губы мужычка скрывіліся, узбуджаны твар выглядаў агідным, гнусным, накіпала агрэсія, што, здавалася, вось-вось вырвецца вонкі.

— Не варта хвалявацца, — ушчуваў Змітрук.

Мужычок мігам ускочыў на матацыкл, газануў — і той заскакаў па выбоінах.

— Нешта ёсць, што змыецца хутка.

Змітрук прысеў на пянёк, паглядзеў услед матацыклу і задумаўся. А, уласна кажучы, што тут думаць? Се ля ві, як скажа француз, — такое жыццё.

— Якая прыгажосць! — Змітрук разглядаў кветачку, — кожны пялёстачак — асобная кветачка. Гэта ж трэба так дакладна капіраваць форму насякомага. А навошта? Каб прывабіць. А вясною ў гэтых мясцінах пашчасціць угледзець табунок дзікоў з паласатымі парасяткамі, з веліканамі-ласямі, пудкімі аленямі ды грацыёзнымі казулямі. Тут, куды ні зірні, — узгоркі, нізіны, ягаднікі, грыбныя мясціны.

Даўкі клубок крыўды падкаціўся да горла: на ўскраіне ляжалі вывернутыя з карэннем учарнелыя пні, нібыта быкі з перарэзаным горлам. Вогнішча яшчэ крыху дымілася. Бензапілы, сякеры ды пажары хочуць абрынуць гэтае ўрочышча ў апраметную. Такое Змітрук бачыў толькі на фронце — і няма чаму здзіўляцца. Але хіба толькі адну гэтую мясціну напаткаў такі гаротны лёс?..

Вецер адагнаў непрыемныя думкі. Збіралася на дождж.

«Пайду ніжэй. На юшку шанцаў болей, чым у хлопцаў на мяса».

Шмат хадзіў, пятляючы, праверыў некалькі віроў — усё безвынікова. «Не пашчасціла сёння. Так бывае. Але без надзеі не варта на раку выбірацца», — разважаў. Заўсёды карціць пабыць там, дзе наведала ўдача.

Змітрук пайшоў берагам пакручастай рачулкі, што шылася ў лагчыне. Ад стаячай вады патыхала балотнай тванню.

Праз тыдзень пачалася доўгачаканая пара — свята паляўнічых. Спяшаліся ўцікаваць птушку і дзічыну.

— У цябе, Андрэй, стрэльба добрая, а ў мяне хоць і старая, але яшчэ спраўна служыць. Ад бацькі засталася. А ў цябе, Стась?

— Даўнейшая, браце...

Ціха крочылі тры постаці з гарачым жаданнем кагосьці ўпаляваць, атрымаць асалоду.

— Бах-бах! — раптам здрыганулася цішыня.

Недзе ўверсе пашчоўкаў і прыціх птах. Андрэй згледзеў, як той разварочваецца, ходзіць па яловым суку. Мякка ступаючы, наблізіўся, ускінуў ружжо і ўбачыў, як барадаты твар, напружана выцягнутую шыю перакрываюць ствалы дубальтоўкі. «Бах-бабах!» Справу вырашыў адзіны стрэл.

Пералятаючы з дрэва на дрэва, птушкі схаваліся ў глыбіні. Мужчыны пакрочылі да рачулкі.

— Давай перакусім тут і будзем чакаць Змітрука, — дастаючы падхарчунак, прапанаваў Стась. — Нахадзіліся...

Хлопцы расцягнуліся на траве. Дзед распавядаў пра незвычайныя здарэнні.

— Бывае, упалюеш дзіка, ён ляжыць і не дыхае, адразу не падыходзь. Нават з прабітым сэрцам кінецца, о... Шчацінне яго як браня. Але чалавек заўсёды мацнейшы за звера, калі ён практычна і псіхалагічна падрыхтаваны да сустрэчы. А ваўкі — гэта ўвогуле ўніверсалы. Нораў іхні не бывае роўны, як надвор'е. Звычкі ваўкоў я ведаю лепей за характар сваёй жонкі. І надвор'е было тады зусім іншае. Пойдзеш, бывае, уранні ў лясок, розныя песні пачуеш. Мелодыя салаўя спачатку цягуча-мядовая, як сарамлівы позірк вясковай прыгажуні, іншым разам перарывіста-мінорная, як вецер у коміне, а напрыканцы — прыцягальна-ўзбуджальная, як аргенцінскае танга.

— І цяпер, дзядуля, там, за Нёманам, у пушчы, — сказаў хлопец, — лясы напоўнены птушыным і звярыным жыццём, дзікоў колькі развялося, а ваўкоў...

Недзе ўдалечыні палахнуў стрэл. Блізка пачуліся цяжкія крокі.

— Ты нешта доўга, Змітрук…

— Сустрэў браканьера.

— А рыбка дзе? — вуды боўталіся ў яго руках без справы.

— Сарвалася адна. На маіх вачах птушка каменьчыкам нырнула з куста ў раку і, нават не раскрываючы крылаў, выскачыла з рыбкай.

Пагаманілі, падымілі, дахрумкалі агурочкі і падаліся.

Непадалёку праскрыпеў драч — ціха ноч ступае. У вяршынях затаіўся маладзік, раўнадушна пазіраючы мутным паўсонным вокам. Прыцемак змусіў паляўнічых звярнуць да сцежкі. Трыснягі нібыта развіталіся, махаючы раскідзістымі мяцёлкамі.

Нечакана Андрэй пачуў уздыхі. У прасвеце паміж дрэў ён прыкмеціў нейкую постаць. Няўзнакі, бязмоўным ценем ён дабраўся да разлапістай яліны.

Жывёла варухнулася у адзін-другі бок, крыху паднялася, зыркнула і павольна апусцілася, выдыхаючы працяглы стогн. Казуля ляжала на акрываўленым баку, падціснуўшы пад сябе ногі.

— Э-эй! Эй! — пракрычаў Андрэй.

Здзіўленыя ўбачаным, мужчыны застылі.

— Хто яе?..

— Напэўна, Шнурок.

— А як дакажаш?..

— Што будзем рабіць? — Змітрук замяўся.

Безліч выпрабаванняў перажыў, а вось зірнуць у вочы паміраючай жывёле не адважыўся.

# Васьмікласнікі жадаюць пазнаёміцца

**Аповесць Алеся Бадака «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца» (2005) — добра вядомы твор падлеткавай літаратуры, які вытрымаў нямала перавыданняў. А напрыканцы 2014 года ў маскоўскім часопісе «Юнацтва» была апублікавана аповесць расійскага пісьменніка Міхаіла Папова «Адзінокая васьмікласніца жадае пазнаёміцца» — падабенства назваў адразу зацікавіла рэдакцыю «ЛіМа». Вядома, аповесці розных аўтараў можна параўноўваць вельмі доўга, але адрозненні ў амаль аднайменных творах Алеся Бадака і Міхаіла Папова дазваляюць выявіць некаторыя асаблівасці беларускай падлеткавай прозы.**



Калаж Віктара Калініна.

Дарэчы, назвы абодвух твораў — зусім не квінтэсэнцыя зместу. Галоўная гераіня М. Папова Ліза Землянікіна — чалавек не адзінокі, далёкі ад дзявочай рамантычнасці, захоплены пошукам новых прыгод. Варыянт з аб'явай у газету агучваецца падчас сямейнай размовы «на кухні», але адразу адмаўляецца як банальны і смешны. Адпаведна, назва патрэбна, каб запрасіць чытача да знаёмства з галоўным героем і акрэсліць мэтавую аўдыторыю твора. Знаёмімся!

Аповесць М. Папова крыху даўжэйшая за твор яго беларускага калегі і напісаная не ад першай, а ад трэцяй асобы. Сюжэт «Васьмікласніцы... » надзвычай дынамічны і насычаны шматлікімі сучаснымі авантурамі. А пачынаецца ўсё з таго, што кампанія аднакласнікаў — Ліза, Баракуда і Галава — вырашае змагацца са злом у сваёй краіне і пачынаюць паўсюль заўважаць злачынцаў. Спачатку падлеткі па незразумелых падставах падазраюць суполку гарадскіх нумізматаў у педафіліі, што заканчваецца гонкай з узаемным пераследам. Потым выпраўляюцца ў патрыятычны лагер для дзяцей-«інвалідаў прагрэсу», якія не могуць адарвацца ад камп'ютараў ды «Макдональдсаў». Нагода лагернага адпачынку — выключны недавер да арганізатра — гісторыка Алега Алегавіча. Школьныя настаўнікі маюць свае таямніцы, але апынаюцца людзьмі крыху лепшымі, чым мяркуюць іх вучні.

Звычайны чалавек за ўсё жыццё не атрымлівае такую дозу адрэналіну, як вынаходлівая і таварыская праўдалюбка Ліза Землянікіна. Яна ўцякае ад абураных калекцыянераў, вандруе па начным лесе, назірае за сатанінскім шабашом, змагаецца з нячыстай сілай... Сюжэт «Васьмікласніцы...» больш багаты на нечаканыя здарэнні, чым твор Алеся Бадака, але і тут знаходзіцца месца для трапных разваг. Праўда, падлетак, які сочыць выключна за развіццём падзей, можа іх нават не заўважыць...

Алесь Бадак, як і іншыя беларускія аўтары, імкнецца прывабіць чытача адкрытасцю, шчырасцю, даверальнасцю. Гэтыя якасці можа выяўляць як аўтар, так і яго галоўны герой ва ўнутраных маналогах. А вось у Міхаіла Папова персанажы любяць дэманстраваць сваю дасведчанасць, а аўтар не абмінае магчымасці

> *„Алесь Бадак, як і іншыя беларускія аўтары, імкнецца прывабіць чытача адкрытасцю, шчырасцю, даверальнасцю. Гэтыя якасці можа выяўляць як аўтар, так і яго галоўны герой ва ўнутраных маналогах.*

згадаць што-небудзь нязвыклае — кшталту спецыялізаванага бокса для немаўлят. Чытач «Васьмікласніцы...» больш уключаецца ў асэнсаванне падзей, бо ўчынкі герояў не маюць відавочнай ацэнкі з боку аўтара ды іншых персанажаў.

А. Бадак і М. Папоў адрозніваюцца і ўяўленнем пра сваіх магчымых чытачоў. Расійскі пісьменнік упэўнена піша пра ахвярапрынашэнне дробных свойскіх жывёл, пра алкаголь на падлеткавых дыскатэках. Кіраўнікі лагера штовечар п'юць шампанскае, усхваляваная бабуля-настаўніца бярэцца за цыгарэту, дырэктар школы апынаецца самым адмоўным героем... М. Папоў відавочна ўпэўнены, што юным грамадзянам варта своечасова даведацца аб праблемах суровай рэчаіснасці і, пажадана, пераняць прыклад смелай і сумленнай Землянікінай. У «Васьмікласніцы...» жыццёвага бруду нават зашмат — невыпадкова твор фігуруе ў змесце «Юнацтва» як «экстрэмальная проза». Тым часам беларускім аўтарам, якія пішуць для падлеткаў, таксама варта ўяўляць чытача больш дарослым і радыкальным і пры гэтым натхняць на самае станоўчае!

Твор Міхаіла Папова не падыходзіць пад азначэнне ідэальнай аповесці для юнацтва. У першую чаргу таму, што пісьменнік дадаў у прыгодніцкі, але даволі рэалістычны твор фантастычную кульмінацыю: напад нячыстай сілы, ініцыяваны шаманкай-паварыхай з падказкі Лізінай маці. Кульмінацыя падзей і персанажаў на апошніх старонках не ўзмацняе мастацкі эфект аповесці. Да таго ж некаторыя героі — і нават Ліза Землянікіна! — у самыя напружаныя моманты не абыходзяцца без нецэнзурных слоў.

Замест шчырых роздумаў лірычнага, чулага Я-героя чытач «Васьмікласніцы...» знойдзе экстрым, прыгоды, багатую фантазію і крыху брутальнасці. Аповесць такога кшталту цяжка ўявіць на старонках «Маладосці». Беларускія пісьменнікі таксама любяць паказытаць нервы чытача, але абмяжоўваюцца значна меншым наборам злачынстваў і выключных падзей. Так, айчынным аўтарам не зашкодзіць быць часам больш смелымі і вынаходлівымі, але пачуццё меры таксама патрэбна. А васьмікласнікі чакаюць знаёмства з новымі цікавымі кнігамі!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*З новага радка*

# Самотнасць белага аркуша

**Кніга вершаў Яны Явіч «Сувязь жыццяў» нагадвае тыя нешматлікія зборнікі, што сталіся адзінымі ў жыцці вядомых творцаў, але здолелі раскрыць іх таленты. Адзіны выпушчаны прыжыццёвы зборнік, што даў свету генія беларускай паэзіі, адзіны верш, што стаў класікай і ўвайшоў ва ўсе хрэстаматыі, адзіны раман, адзіная споведзь-эсэ...**




І разам з гэтай згадкай прыходзіць на розум адзіная тэма ў беларускай паэзіі, што можа зваць вызначальнай у вымярэнні сілы таленту ці проста ўзроўню паэтычнага майстэрства. Тэма самотнасці як немагчымасці выказацца спаўна ажывае пры розных варунках: няспраўджанае каханне, мяжа быцця і нябыту.

Кніга Яны Явіч, быць можа, не стала этапнай для яе, але яна прымушае задумацца над многімі акалічнасцямі часу і найперш — над самім сабою, сваім стаўленнем да жыцця і тых, хто побач.

Часам самотнасць робіцца сінонімам адзіноты: у такім выпадку паэтычныя радкі гучаць горача, апантана і недаравальна для таго, каму яны адрасаваныя. Дзе няма кахання, там душа драбнее, пачуцці мізарнеюць, дні мінаюць, як у Гюго, не пакідаючы нават ценю на сцяне.

Матыў адзіноты не менш «паэтычны» за матыў самотнасці, скразны для беларускай паэтычнай класікі. Тэмы эквівалентныя, яны перагукаюцца, узаемадапаўняюць адна другую, суседнічаюць у радках Яны Явіч і часта прыводзяць да каштоўных знаходак.

*Самотна плача несупынны дождж,*
*І сёння я адна ў пустой кватэры…*
*Нябёсы зорныя малюе ноч*
*На жоўта-шэрых восеньскіх шпалерах.*
*Мяне спаткала толькі цішыня,*
*І я — ты чуеш? — у яе палоне,*
*Хоць марыла, нібыта птушаня,*
*Сагрэцца… у тваіх далонях.*

Прыгадаем: «Я не самотны, я кнігу маю».

Яна Явіч таксама піша казкі для дзяцей, працягваючы традыцыі беларускіх жанчын-паэтэс.

Насуперак скептычным сцверджанням некаторых маіх калег, маўляў, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі адны рускамоўныя аўтары, апошнім часам усё больш маладых людзей уваходзіць у супольніцтва з творамі на беларускай мове.

Звернемся да Ганны Чумаковай. Паэтка з Рагачова скончыла літаратурную студыю «Дакрананне» Ю. П. Арыстава. У 2006 годзе атрымала спецыяльнасць настаўніка беларускай мовы і літаратуры ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны. Паэтка і бард, Ганна Чумакова першы зборнік назвала ўзнёсла — «Мой анёл прысніў мяне…».

Леў Талстой, адгортваючы вокладку кнігі, задаваў пытанне: «Ну, што ты за чалавек?..» Ганна паўстае асобай няўрымслівай, апантанай, скіраванай да пошуку. Часам паэтка імкнецца мага далей «схаваць» сябе, з вершаў не шмат даведваешся пра яе самую. І ўсё ж, пра што б ні пісала, яна піша пра сябе, разважае пра штодзённыя згрызоты і мітрэнгі, пра хваляванні душы, наследуючы Багдановічу, «жывеш не вечна, чалавек, перажыві ж у момант век».




Аўтарка імкнецца ахапіць неахопнае, піць «нагбом» усё, што трапляе ў поле зроку — і як найхутчэй занатаваць. Трэба сказаць, многае ў яе атрымліваецца. Ёсць жывое пачуццё адкрыцця свету і сябе ў свеце, пульсуючая нерастрачаная энергія пошуку ў змесце і форме («Латарэя кахання», «Верш для чытання», «Я...», «*Soli Soli Soli*»), спадзеючыся на адкрыццё, хоць падобны маладнякоўскі «гвалт над формай» (М. Грамыка) у беларускай пэзіі не новы. І, наадварот, дзе паэтка ідзе ад жыцця (прысвячэнні бацьку, маці, у «Нізцы вершаў па Анатолю Сысу»), праглядаецца здольнасць «жывапісаць» словам.

Галоўнае — пачатковец валодае патрэбнымі якасцямі — вобразнасцю і пачуццёвасцю.

Хадыку, які «сто вершаў задумістых выбаіў», Купала некалі параіў: «Мой мілы, мой добры Валодзя, задумістых можа ўжо годзе», а болей «ад сэрца да сэрца». Гэтаг ж пажадаем адоранай паэтцы і барду. Тым больш што ў кнізе яна пазначыла свой электронны адрас, і чытач, несумненна, адгукнецца.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**старшыня прыёмнай камісіі**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Лічбавае падарожжа

**У беларускіх народных казках адносіны між бацькамі і дзецьмі выяўляюцца адмысловым чынам: часам другія выглядаюць разумнейшымі за першых і падказваюць, як вырашыць тую ці іншую жыццёвую праблему. Зрэшты, у сучасных рэаліях можна назіраць, як лёгка нашы інфармаваныя падлеткі засвойваюць веды і карыстаюцца складанай электроннай тэхнікай, неспасцігальнай для большасці прадстаўнікоў старэйшага пакалення.**

Менавіта для такіх і пра такіх дасведчаных хлопчыкаў і дзяўчынак стварае кніжкі пісьменнік Уладзімір Кулічэнка, які ўпершыню заявіў пра сябе фантастычнай аповесцю «Катамаран "Уцякач"» яшчэ ў 1984 годзе. Твор чытачы сустрэлі прыхільна. Ён прагучаў у эфіры на Беларускім радыё. Прыгодніцкая аповесць «Следства па справе шкляных чалавечкаў» выдадзеная ў 1998 годзе і тады ж перакладзеная на англійскую мову. І, нарэшце, у 2013 годзе ў серыі «Піраміда» выдавецтва «Чатыры чвэрці» выйшлі адначасова тры кніжкі «Інтэрнэт-сышчык», «Інтэрнэт-салдат» і «Інтэрнэт-хлопчык».

Дзіцячыя аповесці Уладзіміра Кулічэнкі ўтрымліваюць элементы розных жанраў — дэтэктыва, прыгодніцкай літаратуры і чароўнай казкі. Сюжэты выбудоўваюцца складаныя і дынамічныя, здольныя ўтрымліваць увагу і аднасова адлюстроўваць штодзённае жыццё сучаснікаў. Што да зместу, ён дастаткова пазнавальны і павучальны (у лепшым сэнсе гэтага слова); аповесці пажадана чытаць з геаграфічнай картай у руках, каб перамяшчацца разам з персанажамі па планеце. З твораў У. Кулічэнкі можна

> *Дзіцячыя аповесці Уладзіміра Кулічэнкі ўтрымліваюць элементы розных жанраў — дэтэктыва, прыгодніцкай літаратуры, чароўнай казкі...*

атрымаць веды па геалогіі, хіміі ды складаных стасунках з тэхнікай (аповесці гэтыя не зашкодзіла б чытаць і дарослым). Навуковыя звесткі падаюцца ненавязліва праз дыялогі герояў.

Аповесць «Следства па справе шкляных чалавечкаў» раскрывае незвычайныя прыгоды Антона Верацёлкіна з пасёлка Разгуляйка, начытанага і разумнага хлопчыка, які дапамагае маме працаваць у пасялковым музеі. Тут адбываецца непрыемны інцыдэнт, і міліцыянер Платон Карамыслаў неадкладна бярэцца расследаваць загадкавую справу. Вядома ж, яму дапамагае Антон.

Фантазія ў пісьменніка вельмі багатая, і немагчыма прадказаць наступнае дзеянне герояў, калі тыя патрапляюць у безвыходную сітуацыю. Аповесць, як і ўсякая казка, заканчваецца добра, пры гэтым карыслівыя персанажы атрымліваюць заслужанае пакаранне.

Сяржант міліцыі Платон Карамыслаў і мароженшчык Рафаэль Габо, з якімі чытачы пазнаёміліся ў папярэдняй казцы, выступаюць персанажамі аповесці «Інтэрнэт-сышчык». Тут міліцыянеру даводзіцца весці расследаванне дзіўнай справы: невядомы зламыснік адразае гузікі ў гараджан. Карамыслаў адольвае вялізныя адлегласці: спачатку — на адзін з астравоў архіпелага Шпіцберген, пасля — да Кольскага паўвострава, у Маскву, Краснаярск, Хакасію...

Пачынаючы з вялікага швейцарца Іагана Песталоцці, прагрэсіўныя педагогі імкнуцца стварыць такую навучальную сістэму, што дазволіла б выявіць талент дзіцяці і дапамагла б росквіту ягоных інтэлектуальных, фізічных і маральных здольнасцей. Да гэтай добрай справы гатовыя далучыцца сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі, якія развіваюцца з шалёнай хуткасцю. Новае пакаленне ўжо называюць «лічбавым», і, адпаведна прагнозам дэмографаў, праз дзесяць гадоў «лічбавыя» людзі будуць складаць палову насельніцтва планеты.

Аповесць «Інтэрнэт-хлопчык» апавядае пра Васю Самсонава, які ў выніку шматлікіх прыгод — з дапамогай камп'ютара — адшукаў карлікавага бегемота Пепа, што было знік з перасоўнага цырка. Тут жа мы сустракаем салдата Слiўку, які пасля службы ў войску ўладкаваўся на працу ў заапарк. Гэтага няўрымслівага і адважнага персанажа бачым у новай аповесці Уладзіміра Кулічэнкі «Салдат Сліўка ў камп'ютарным горадзе», выдадзенай «Харвестам» у 2014 годзе. Падзеі адбываюцца ўжо ў лічбавым вымярэнні.

> *Новае пакаленне ўжо называюць «лічбавым», і, адпаведна прагнозам дэмографаў, праз дзесяць гадоў «лічбавыя» людзі будуць складаць палову насельніцтва планеты. Для такіх і пра такіх юных чытачоў — аповесці У. Кулічэнкі.*

Героі аповесцей Уладзіміра Кулічэнкі нясуць дабро і нават больш — дапамагаюць адмоўным персанажам перагледзець сваё стаўленне да свету ў станоўчы бок. Глыбока пранікаючы ў псіхалогію дзіцяці, пісьменнік на прыкладзе герояў твораў выяўляе стасункі з аднагодкамі і дарослымі, з навакольны светам, вучыць спагадзе, міласэрнасці, павазе да старэйшых. Чытаючы гэтыя аповесці, падлетак уцягваецца ў творчы працэс, які, магчыма, дазволіць яму самому адкрыць у сабе здольнасці. Схіляюся да думкі, што менавіта праз літаратуру для дзяцей і падлеткаў таленавіты аўтар найбольш здатны выявіць свае творчыя магчымасці, што мы і бачым у выніку плённай працы Уладзіміра Кулічэнкі.

**Лада БОРТНІК**

# Падабенства — у адрозненні

Кніга прозы Мікалая Еляпеўскага «Мытары і фарысеі», што выйшла ў выдавецтве «Чатыры чвэрці», складаецца з двух раманаў: адзін з іх даў найменне самой кнізе, другі называецца «Наперсны крыж». Штораз вяртаючыся да твораў — чытаных-перачытаных яшчэ ў рукапісах, — задумваюся: нешта ж іх аб'ядноўвае… Адрозныя ва ўсім, акром жанравай прыналежнасці...



А розняцца яны перадусім стылістыкай і тэматыкай.

Першы — «Мытары і фарысеі» — напісаны сучаснаю мовай з яе лаканічнасцю, пругкасцю, а яшчэ — публіцыстычнай завостранасцю. Аўтар не дайшоў у творы да газетнага стылю, і ўсё ж падчас чытання ні на секунду не пакідае адчуванне, што створаны раман журналістам.

Зусім іншы «Наперсны крыж». Стылістыка тут адпавядае тэме гістарычна-хрысціянскай. Аўтар вельмі тонка адчуў такі нюанс, як «слоўнікавы складнік» кожнага твора. Калі ў «Мытарах і фарысеях» (на жаль, так і не завершаных) ён знайшоў сучасныя сродкі малюнка, то ў «Наперсным крыжы» яны запазычаныя з мінулага стагоддзя, з часоў руска-турэцкай вайны, выпісаных натуральна і ва ўсёй сваёй разнастайнасці. Так, значная частка рамана прысвечаная так званаму мірнаму перыяду жыцця галоўнага героя Сергія Лаўрскага.



Кульмінацыя ж расповеду — батальная сцэна, дзе палкавы святар з пінскага Палесся вядзе за сабой, натхняе ўласным прыкладам расійскае войска. Вядома ж, ён рызыкаваў жыццём. Куля ўдарыла якраз у перахрэсце, але на грудзях крыж. Затым — узнагарода, вяртанне на Радзіму, служба ў адным з прыходаў Піншчыны.

Мікалай Еляпеўскі даўно зарэкамендаваў сябе як майстар дакументальнай прозы, а таксама як глыбока і шчыра веруючы чалавек. Ваенныя падзеі аўтар падае так, быццам і сам раман створаны не ім, а палкавым святаром Сергіем Лаўрскім.

Але вернемся да галоўнага пытання: што аб'ядноўвае гэтыя неспалучальныя, здавалася б, раманы? Магчыма, біяграфія пісьменніка — ён вайсковец. Мікалай Еляпеўскі нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Лунін, што каля Лунінца. Салдатам тэрміновай службы паступіў у Львоўскае Вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, якое скончыў з залатым медалём, і больш за дваццаць гадоў працаваў у ваенным друку. Падпалкоўнік запасу. Аўтар шматлікіх аповесцей і апавяданняў, друкаваўся ў вайсковых часопісах і газетах. Выдаў дакументальную кнігу «Нябесны штурмавік», раман-хроніку «Час святара». І падчас кожнай сустрэчы ён прыемна здзіўляў новымі ідэямі, знаходкамі, а галоўнае — напрацоўкамі і ўжо амаль гатовымі творамі.

І ўсё ж не біяграфіяй (дакладней, не толькі ёю) аб'ядналыя раманы «Мытары і фарысеі» ды «Наперсны крыж». Знітоўвае іх якраз своеасаблівая палярнасць, адрознасць. Адзін — пра патрыятызм і гераізм, спалучаныя з ахвярнасцю («Наперсны крыж»), другі — пра падзенне нораваў у апошнія імгненні існавання Савецкай Арміі.

«Наперсны крыж» быў апублікаваны ў скарочаным (часопісным) варыянце годам раней у часопісе «Воин России» (№ 7 за 2011 год). Памятаецца: водгукаў было вельмі шмат. Удзячных. Не сумняюся: на гэтую кнігу таксама будзе шмат удзячных водгукаў. Толькі аўтар іх, на жаль, ужо не пачуе.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ**

***Нататкі чытача***

# Як стаць шчаслівым

Пра гэта — кніга Ірыны Ігнатовіч «Мёд памяці».

Аўтарка адна з тых, хто не супрацьпастаўляе фізіку і лірыку: атрымаўшы далёкую ад паэзіі спецыяльнасць (машынабудаўнічы факультэт ГДУ імя Сухога), яна застаецца чалавекам з паэтычным успрыманнем свету.

У вершы «Не выношу я душу открывать» І. Ігнатовіч разважае пра тое, наколькі шчыра можна і патрэбна выказваць свае пачуцці. Нясмелая душа творцы, якая баіцца неразумення, змагаецца са сваім паэтычным дарам, які немагчыма рэалізаваць без адкрытасці. З'яўленне зборніка «Мёд памяці» сведчыць пра тое, што ў гэтым змаганні перамаглі вершы.

Шлях да шчасця, дабрыні і веры ў лірычнай гераіні цяжкі і балючы. Ён поўны пакутаў, шкадавання, расчараванняў, барацьбы з сабою. Трэба навучыцца разумець, дараваць, а часам прымаць жыццё такім, якое яно ёсць, знаходзіць у ім сваё месца. У складаным перапляценні падзей і жаданняў трэба вучыцца бачыць выспы міру і спакою. Жыццё не можа ўвесь час прыносіць толькі моцныя ўражанні. Шчасце іншы раз — гэта проста ўменне без наракання выконваць свой абавязак.

Для паэткі цудоўнае тое, побач з чым многія праходзяць з «нязоркім сэрцам». Шчаслівы чалавек, які ўмее без празмернага замілавання адчуць асалоду ад прыгажосці паўсядзённага і звярнуць на гэтую прыгажосць увагу іншых. Асабліва выразна гэта думка выяўляецца ў вершах «Весенняя радость», «Ищу тишину», «Церковный дворик», «Равнодушные», «Найти очарованье».

Праз зборнік праходзіць думка, што шчаслівым можа быць толькі той, хто жыў з годнасцю. Лірычная гераіня спрабуе зразумець: ці адпавядае яе жыццё гэтаму патрабаванню? Гэтыя ж пытанні ўскосна гучаць у вершах «Акварельный храм», «Кто я?», «Лишь зеркало».

У гераіні нярэдка ўзнікае жаданне адысці ад паўсядзённага ў свет мастацтва. «Всю жизнь мою вы превратили в пир, / От дней обыденных с собой умчав далёко», — піша паэтка пра музыку. І ў той жа час разумее, што ад сябе немагчыма схавацца: нельга сысці ў прыдуманае жыццё, «к своей судьбе души не прилагая».

Вершы Ірыны Ігнатовіч пераконваюць, што калі верыць, спадзявацца і прыкладаць намаганні, то жыццё абавязкова адбудзецца. А памяць, нягледзячы на зменлівасць лёсу, мае ўласцівасць захоўваць самае лепшае з перажытага, збіраць яго, як мёд у соты.

**Галіна РАГАВАЯ**

*За «круглым сталом»*

# Беларусь — Расія. Агульны погляд у будучыню

У Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі прайшоў «круглы стол» літаратурнай грамадскасці дзвюх краін. Арганізатарамі размовы выступілі Міністэрства інфармацыі Беларусі, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкі дом «Звязда», ФНКА «Беларусы Расіі».

З самага пачатку міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч акрэсліла абсягі дыялогу прадстаўнікоў пісьменніцкай супольнасці Саюзнай дзяржавы і прапанавала, зазірнуўшы ў недалёкае мінулае, пагаварыць пра перспектывы расійска-беларускага літаратурнага, культурнага супрацоўніцтва. Ігар Петрышэнка, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, заўважыў выключную шматабсяжнасць тэмы. «Аналізуючы тое, што адбываецца ў навакольным свеце, прыходзіш да простай, але праверанай тысячагоддзямі ісціны пра важкасць гармоніі ў архітэктуры зносін, — сказаў Ігар Петрышэнка. — І вельмі правільна, на мой погляд, што, ствараючы беларуска-расійскі саюз, мы, пры несумненным ключавым характары эканамічных сувязей, ніякім чынам не прыніжаем ролю духоўнай сферы, культурна-гуманітарнага супрацоўніцтва.

І ў гэтым сэнсе агонь асветніцтва і дабрыні, які заклікана несці людзям мастацкая літаратура, абавязаны гарэць ярка, каб асвятляць і саграваць гэты велічны Дом — Саюзную дзяржаву, робячы яго больш утульным, насычаючы духоўным жыццём, дорачы мару...»

Міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч звярнула ўвагу на змест праграмы «Беларусы ў свеце» і перадала сертыфікат на камплект кніг беларускіх выдавецтваў Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі». Падарунак прыняў намеснік старшыні грамадскай арганізацыі вядомы расійскі і беларускі пісьменнік Валерый Казакоў. Міністр інфармацыі таксама анансіравала новы сумесны медыйны праект рэдакцый гарадскіх газет «Вечерняя Москва» і «Вечерний Минск».

У дыскусіі бралі ўдзел галоўны рэдактар «Российской газеты» Уладзіслаў Фронін, член Саюза пісьменнікаў Расіі, мастацкі кіраўнік Міжнароднага фестывалю «Поющие письмена» Сяргей Главюк, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Саюза пісьменнікаў Расіі Аляксандр Кажадуб, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Вечерняя Москва» Гаяз Алімаў, начальнік Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Маргарыта Леўчанка, дырэктар выдавецтва «Художественная литература» Георгій Прахін, член праўлення Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Іван Сабіла, доктар філалагічных навук Іван Саверчанка, паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Саюза пісьменнікаў Расіі Любоў Турбіна і інш.

Літаральна ўсе выступоўцы расказвалі пра канкрэтныя праекты творчага супольніцтва беларускіх і расійскіх літаратараў. Падчас размовы былі прэзентаваны альманахі «Сугучча. Беларусь — Масква» і «Сугучча. Беларусь — Санкт-Пецярбург», якія выйшлі ў Выдавецкім доме «Звязда» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Беларусі. Агучаны былі і вартыя ўвагі праблемы, якія патрабу-юць вырашэння. Сяргей Главюк вёў размову пра перавыданне анталогіі сучаснай беларускай паэзіі ў перакладзе на рускую мову. Аляксандр Кажадуб зазначыў, што добра было б вярнуць да жыцця беларускую старонку ў «Литературной газете» — «Лад». Дзясяткі беларускіх паэтаў і празаікаў мелі магчымасць друкавацца на рускай мове, прадстаўляць сваю творчасць усім, хто жадае пазнаёміцца з беларускай літаратурай праз рускую мову. Але без падтрымкі Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы рэалізацыя такога праекта, канечне ж, не прадстаўляецца магчымай.

Валерый Казакоў нагадаў пра тое, што неаднойчы вялася размова пра сумесны беларуска-расійскі форум маладых пісьменнікаў. Чаму б такі праект не ажыццявіць пад эгідай Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі?

Дарога ў будучыню, усталяванне прыярытэтаў духоўнасці, гуманістычнага вектара для Беларусі і Расіі магчымыя толькі ў супольнасці. І ў гэтым меркаванні ўсіх удзельнікаў размовы сыходзіліся. Будзем спадзявацца, што так яно і будзе — і ў блізкай, і ў далёкай перспектыве. Дзеля гэтага і плануюцца, увасабляюцца ў жыццё многія добрыя справы. Як і выданне альманаха «Сугучча». Як і правядзенне міжнароднага «круглага стала» ў Дзень беларускага пісьменства. Як і публікацыі ў раздзеле «Сябрына» ў часопісе «Нёман». Магчыма, дзеля трываласці беларуска-расійскіх літаратурных стасункаў трэба рабіць яшчэ больш. Чаму б не аднавіць выданне альманахаў перакладаў з іншых літаратур «Братэрства», «Ветразь», на старонках якіх заўсёды знаходзілася месца рускай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову? Чаму б не стварыць бібліятэку лепшых перакладаў сучаснай беларускай прозы і паэзіі на рускую мову? Мо да яе выдання спрычыніцца б тая ж маскоўская «Художественная литература»?

І, пэўна ж, традыцыяй маглі б стаць сустрэчы кшталту дыялогу ў Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. Да дыскусій, грунтоўных размоў і адпаведна да добрых спраў далучыліся б шмат хто з пісьменнікаў, перакладчыкаў з Масквы, Расійскай Федэрацыі, дзе здаўна існавала цікавасць да беларускага мастацкага слова.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА,**
**Масква — Мінск**

*Фестывалі*

# Дагестан: паэзія памяці



*Ля помніка Расулу Гамзатаву.*

Штогадовы традыцыйны Міжнародны паэтычны фестываль «Белыя жураўлі», які праводзіцца пад эгідай ЮНЕСКА, прайшоў у Дагестане. Свята паэзіі ў Рэспубліцы Дагестан, 29-е па ліку, прысвечана памяці воінаў, што загінулі на палях бітваў, а з 2004 года — і памяці народнага паэта Дагестана Расула Гамзатава.

Па традыцыі фестываль пачаўся з цырымоніі ўскладання кветак. У пасёлку Таркі кіраўнікі рэспублікі, госці, сябры, родныя і блізкія Расула Гамзатавіча наведалі магілу паэта. Сярод шматлікіх гасцей, запрошаных на свята, — вядомыя пісьменнікі, дзеячы культуры Беларусі, Крыма, Калмыкіі, Чачні, Інгушэціі, Асеціі, Кабардзіна-Балкарыі, Башкартастана, а таксама Масквы, Санкт-Пецярбурга, Калугі, Бранска, Пензы, Стаўрапаля ды іншых гарадоў. Беларускую пісьменніцкую арганізацыю прадстаўлялі паэт, празаік, перакладчык, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў і паэт, перакладчык, мастак, скульптар, выхадзец з Дагестана Хізры Асадулаеў.

Ад гары Таркі-Тау ўрачыстасці перанесліся ў цэнтр Махачкалы, на праспект Расула Гамзатава, да бронзавага помніка паэту. Цырымонія адкрыцця Гамзатаўскіх дзён і «Белых жураўлёў» праходзіла ў парку імя Ленінскага камсамола. Каля помніка Воіну-вызваліцелю сабраліся дзеці са школ сталіцы Дагестана. Пад знакамітую песню Яна Фрэнкеля на вершы Расула Гамзатава маленькія дзяўчынкі, апранутыя ў касцюмы белых жураўлёў, кружылі ў ціхім, лірычным, авеяным светлым сумам танцы, які стаўся напамінам пра гора і слёзы людзей, што перажылі вайну.




*Міхась Пазнякоў і сакратар Праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі, паэт Іван Галубнічы на магіле Расула Гамзатава.*

Фестываль «Белыя жураўлі», шмат гадоў таму ініцыяваны Расулам Гамзатавым, заклікае захоўваць памяць пра воінаў, якія не вярнуліся з «крывавых палёў», аберагаць словам, паэзіяй, літаратурай мір на зямлі. Прадстаўнікі кіраўніцтва рэспублікі разам з вялікай групай пісьменнікаў наведалі дом Расула Гамзатава, дзе іх гасцінна сустрэлі сваякі паэта. У доме Р. Гамзатава выступілі госці з Беларусі, прагучалі вершы на беларускай мове.

Увечары фестываль перамясціўся ў Тэатр паэзіі, які нядаўна адчыніў свае дзверы ў сталіцы Дагестана. Гасцей і прыхільнікаў лірыкі зачаравалі і дворык тэатра, і сам будынак, і яго ўнутранае афармленне. Вечар сучаснай рускай і беларускай паэзіі вёў старшыня Саюза пісьменнікаў Дагестана Магамед Ахмедаў. Выступілі многія айчынныя і расійскія паэты. Міхась Пазнякоў прачытаў свой новы верш, прысвечаны Дагестану, уручыў М. Ахмедаву дагавор аб супрацоўніцтве творчых саюзаў дзвюх краін і прэзентаваў яго кнігу вершаў «Горная ліра» ў сваім перакладзе з аварскай на беларускую мову. Кніга выпушчана ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» выдавецтвам «Чатыры чвэрці». Цёпла сустракала зала і земляка Хізры Асадулаева, які прачытаў свой верш пра дружбу народаў, перакладзены з карацінскай мовы на рускую айчынным паэтам Анатолем Аўруціным.

Раніцай наступнага дня тры дэлегацыі паэтаў раз'ехаліся на святочныя мерапрыемствы ў любімыя Гамзатавым аул Цада, гарады Гуніб і Дэрбент.

Дэлегацыя з 18 паэтаў пад кіраўніцтвам Магамеда Ахмедава, у якой былі і беларускія госці, наведала знакаміты Гуніб, апеты не толькі Гамзатавым, але і выхадцам з гэтых мясцін народным паэтам Дагестана Магамедам Ахмедавым. Мерапрыемствы доўжыліся да самага вечара. Гасцей шчыра, па-горску, сустракалі жыхары горада: старэйшыны, моладзь, школьнікі... Уразілі мітынг-рэквіем, прысвечаны землякам, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і вялікі канцэрт на гарадской плошчы, дзе ўзнёсла гучала і беларускае паэтычнае слова. Свята завяршылася высока ў гарах, за брамай народнага героя імама Шаміля. Госці раз'ехаліся, каб працягваць мацаваць творчае сяброўства ды прапагандаваць галоўны запавет Расула Гамзатава — кожным словам і кожнай справайзмагаццасупрацьвайны, прапаведаваць мір.

**Павел КУЗЬМІЧ,**
**фота Хізры Асадулаева**

*Унікальны праект*

# Тры творцы — тры кіты

Серыя «Залатая калекцыя беларускай літаратуры» выдавецтва «Мастацкая літаратура» папоўнілася трыма новымі кнігамі — грунтоўнымі тамамі выбраных твораў Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы. Калі паставіць гэтыя выданні на адну паліцу, можна пабачыць сімвалічную выяву тых трох кітоў, на якіх у пачатку XX стагоддзя і трымалася Зямля нашай літаратуры. Па сутнасці, на іх яна трымаецца і сёння.

## «ВЯНОК»: ДЭФРАГМЕНТАЦЫЯ

Да Максіма Багдановіча ў аматараў беларускай літаратуры стаўленне асаблівае. Рана памёр, быў геніяльным творцам, пісаў вершы, прозу, публіцыстыку, працаваў над перакладамі… Мы захапляемся яго майстэрствам, вытанчанасцю вобразаў, уменнем выкарыстоўваць літаратурныя жанры, прадумваць структуру кніг. Таму і адзіны прыжыццёвы зборнік паэта «Вянок» успрымаецца не проста як кніга вершаў, але і як узор майстэрства ўкладання, умення прымусіць творы «сябраваць», рэзаніраваць паміж сабой.

Збор твораў Максіма Багдановіча з серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры» (том 7) вызначаецца нязвыкласцю падыходу да прадстаўлення спадчыны выдатнага паэта. Справа ў тым, што яго ўкладальнік, вядомы літаратуразнаўца Юрась Пацюпа, не проста сабраў пад адной вокладкай усе творы Багдановіча, змясціў тут пераклады рускамоўных тэкстаў на беларускую мову, дапоўніў выданне ўспамінамі сучаснікаў пра паэта, але і… дэфрагментаваў «Вянок». Раней пры складанні зборнікаў твораў Максіма Багдановіча ўкладальнікі пакідалі «Вянок», яго структуру нязменнымі, проста дадаючы перад тэкстамі з кнігі раннія творы, а пасля — тыя, што былі напісаныя пасля яе выхаду. Юрась Пацюпа паставіўся да «Вянка» як да чарнавіка, які і сам Багдановіч увесь час дапрацоўваў, змяняў структуру, дадаваў і прыбіраў з яго вершы. Вось і атрымалася, што фактычна ўсе творы Максіма апынуліся ўпісанымі ў схему адной кнігі, з захаваннем эпіграфаў з «Вянка» і назваў раздзелаў, прыдуманымі самім Багдановічам. Больш за тое, укладальнік паклапаціўся, каб усе тэксты, што ўвайшлі ў Збор твораў, падаваліся ў адпаведнасці з іх першапублікацыямі (натуральна, у адаптацыі да сучаснага беларускага правапісу).





Адметна, што ў новае выданне ўвайшлі таксама рэцэнзіі, рэпартажы, падарожныя нататкі Максіма Багдановіча, а таксама яго лісты Вацлаву Ластоўскаму, Адаму Багдановічу, Валерыю Брусаву, у рэдакцыю «Нашай нівы» і «Маладой Беларусі»… Ёсць тут і даследаванні творчасці Максіма, што дапамогуць яшчэ глыбей і дакладней пабачыць адметнасці аўтарскага стылю гэтага выдатнага творцы. Упэўнена, што кніга стане выдатным дапаможнікам для настаўнікаў, студэнтаў, выкладчыкаў і даследчыкаў беларускай літаратуры, бо яна значна спрашчае пошук тэкстаў і падае шырокую панараму творчасці Максіма Багдановіча.

## НА КОЛАСАВЫХ ПРАСТОРАХ

Калі ўся творчая спадчына Максіма Багдановіча змясцілася пад вокладкай аднаго выдання, то ўкладальнікам тома, прысвечанага Якубу Коласу, прыйшлося адбіраць толькі самае-самае цікавае, значнае, вядомае з набыткаў класіка. Вось і атрымалася, што больш як на васьмі сотнях старонак выдання змясціліся дзве вялікія паэмы («Новая зямля» і «Сымон-музыка»), амаль два дзясяткі апавяданняў і каля васьмі дзясяткаў самых вядомых вершаў Якуба Коласа.



Такі выбар укладальніцы кнігі, вядомага тэкстолага, кандыдата філалагічных навук Алесі Шамякінай, патлумачыць вельмі проста. Перад намі — самыя запатрабаваныя чытачамі творы Якуба Коласа, іх вывучаюць у школе і ва ўніверсітэце, іх часцей за ўсё згадваюць і цытуюць. Цяпер студэнтам і выкладчыкам не патрэбна абыходзіць букіністычныя крамы ў пошуках старых выданняў Коласа з гэтымі тэкстамі, усё ўжо сабрана пад вокладкай новай кнігі. Больш за тое, сёлета адзначаецца 90-годдзе публікацыі паэмы «Сымон-музыка», і ў лістападзе, падчас штогадовых «Каласавін», шырокая ўвага даследчыкаў будзе скіравана менавіта на гэты твор, гісторыю яго напісання, вобразнасць, адметнасці кампазіцыі. Ёсць час падрыхтавацца і перачытаць любімую паэму яшчэ раз.

Што ж да вершаў Коласа, якія ўвайшлі ў новае выданне, то можна сцвярджаць, што дадзеная падборка — квітэсэнцыя паэтычнай спадчыны класіка. Тут у храналагічным парадку змешчаны тэксты — ад самых ранніх, што датуюцца 1904 годам, да апошніх, датаваных 1953 годам.

## ШЛЯХАМІ КУПАЛЫ

Не стануць навіной для прыхільнікаў беларускай літаратуры і тэксты, што ўвайшлі ў Збор твораў Янкі Купалы серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры» (том 9). Усе яны публікаваліся ў вялікім Поўным зборы твораў аўтара ў 9-ці тамах (Мінск: Мастацкая літаратура, 1995 — 2003). Аднак наяўнасцю гэтага выдання могуць пахваліцца нямногія, ды і чытаць усе дзевяць тамоў для знаёмства са спадчынай класіка — наўрад ці хуткі працэс. Таму працей звярнуцца да новай кнігі, дзе можна знайсці ўсе праграмныя вершы, паэмы, п'есы, публіцыстычныя артыкулы Янкі Купалы.

Прынцып пабудовы выдання той жа: вершы падаюцца ў храналагічным парадку ў адпаведнасці з датай іх напісання (з 1905 да 1941 года). Што да паэм, то ў гэты раздзел увайшлі твор «Зімою», вядомая паэма «Курган», ранняя паэма Купалы «На Куццю», а таксама «Магіла льва», «Яна і я», «Безназоўнае», «Адвечная песня». У гэтым томе знойдуць чытачы і сапраўды культавыя Купалавы п'есы «Паўлінка», «Раскіданае гняздо» і «Тутэйшыя», а таксама публіцыстыку. Адметна, што ў ліку публіцыстычных артыкулаў Купалы ёсць тэксты розных жанраў: гэта і падарожныя нататкі з паездкі ў Фінляндыю, і рэпартаж са святкавання Купалля ў Вільні, і дыскусійны артыкул «Чаму плача песня наша?», напісаны ў адказ на правакацыю Вацлава Ластоўскага.

Усе тры новыя кнігі, што выйшлі ў серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры», не толькі прадстаўляюць самыя вядомыя творы нашых выдатных класікаў, але і дэманструюць шырыню жанравага дыяпазону іх творчасці, шматграннасць іх асоб, багацце іх літаратурнай спадчыны.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Сакрэт старога тэлефона

Ці ўмеюць акварэлькі размаўляць? Як дастаць зорку з неба і хто сапраўдны гаспадар у двары? На гэтыя пытанні дарослы (а дзеці абавязкова запытаюць пра такія рэчы) можа даць адназначны адказ, а можа распавесці цікавую казку і тым самым абудзіць фантазію малога. Менавіта такім шляхам ідзе пісьменнік Алесь Бадак у сваёй новай кнізе казак «Зорка для вавёркі».

Сем казак — сем выдатных гісторый. Невялікіх твораў, што ўвайшлі ў гэтую кнігу, хопіць на цэлы тыдзень. Іх можна чытаць, абмяркоўваць — па адной кожны дзень. Думаецца, маленькім чытачам (ці яшчэ слухачам) прыйдуцца даспадобы расповеды пра Чаплю, якая хацела навучыцца спяваць як Жабка, каб умець па кваканні «чытаць» сігналы, што перадаюць жабы. Захопіць увагу дзетак гісторыя пра неахайнага хлопчыка Андрэйку, якога не хацелі слухацца нават Пэндзлік і акварэлькі. Зацікавіць стары тэлефон, што ўмее расказваць цікавыя гісторыі (шмат пачуў ён іх за сваё жыццё!), але гаспадар вырашыў замяніць яго на новы, маленькі і сучасны. Развесяліць дзетак расповед пра спрэчку Кацяняці, Шчанюка, Чарвяка і Курыцы пра тое, хто самы галоўны ў двары, а гісторыя пра Белага Пеўніка, які ўмее чытаць і баіцца пабачыць кураслеп, навучыць суперажываць.

Свет казак Алеся Бадака незвычайны. Тут свойскія жывёлы ўмеюць размаўляць і нават чытаць, тут ажываюць акварэлькі, а ветрык і аблачынкі ў небе маюць свае сем'і, тут жабкі ходзяць у музычную школу, а хмаркі ўважліва сочаць за тым, каб раслінам хапала вільгаці для росту. Але ёсць у гэтых гісторыях і ўзятае аўтарам з рэальнага жыцця. Гэта паводзіны дзяцей і дарослых, якія таксама з'яўляюцца героямі казак. Так, неахайны Андрэйка крыху лянуецца і не стараецца навучыцца прыгожа маляваць; адзінокі Янка, якога часта пакідаюць дома аднаго, не мае сяброў, таму з задавальненнем слухае гісторыі старога тэлефона; капрыза Міхаська патрабуе немагчымага ад бабулі і дзядулі, а тыя, у сваю чаргу, імкнуцца зрабіць усё, каб выканаць самыя незвычайныя просьбы ўнука. Думаецца, у гэтых героях маленькія чытачы (ды і дарослыя) пазнаюць сябе, а гісторыі Алеся Бадака дапамогуць ім па-іншаму зірнуць на свае паводзіны. Адметна, што аўтар не акцэнтуе ўвагу на дыдактычных «здольнасцях» сваіх казак, ён не павучае і не маралізуе, а проста распавядае і спадзяецца, што чытач сам усё выдатна зразумее і выправіцца.




*Алесь Бадак. Зорка для вавёркі: казкі. — Мінск: Звязда, 2015. — 40 с.*

Варта звярнуць асобную ўвагу і на мастацкае аздабленне кнігі. Выдатныя малюнкі Кацярыны Першынай дапамогуць чытачу ўявіць герояў казак (а для дзяцей гэта вельмі важна). Дарэчы, асабліва сімпатычнымі ў мастачкі атрымаліся чорны коцік Сімка, разумны Белы Пеўнік і сціплая Курачка з Чорным Крылом. Застаецца спадзявацца, што гэтыя героі «пераедуць» і ў наступныя кнігі Алеся Бадака, іх чакаюць новыя цікавыя прыгоды і неверагодныя гісторыі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Навінкі кнігавыдання




***Беларусь праз прызму рэгіянальнай гісторыі: Бяроза і Бярозаўскі рэгіён: [зборнік навуковых артыкулаў] / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі; [укладальнікі: А. А. Скеп'ян, А. Б. Доўнар; рэдкалегія: А. А. Каваленя (старшыня) і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 400 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1785-3 (у пер.).***

*Нехта скажа, што краязнаўства, ці рэгіяналістыка, — зусім не навука, а нехта будзе натхнёна і самааддана даследаваць гісторыю родных мясцін, разгадваць загадкі мінулага. Як бы там ні было, рэгіянальны падыход да вывучэння мінулага цалкам мае права на існаванне. Пацвярджэнне таму — новая калектыўная праца супрацоўнікаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Зборнік артыкулаў прысвечаны розным аспектам гістарычнага развіцця Бярозы і яе ваколіц. Асабліва пільную ўвагу даследчыкі звяртаюць на найбольш вядомую фундацыю Казіміра Льва Сапегі — бярозаўскі кляштар картузаў, яго гісторыю і лёс.*

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Толстой, Л. Н.** Три медведя: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Л. Н. Толстой; [художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-196-6.

**Три брата:** [русская народная сказка: для дошкольного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 18 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0880-8.

**Я мечтою ловил уходящие тени...:** сборник лирики: [для старшего школьного возраста / составитель Т. Ф. Рослик]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2015. — 159 с. — 30390 экз. — ISBN 978-985-11-0833-2 (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Екимова, Е. А.** Православная азбука в стихах: [для чтения взрослыми детям] / Елена Екимова; [рисунки Татьяны Соколовой]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2014. — 43 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-7020-08-9 (ошибоч.).

**Лещинская, Е. С.** Моя маленькая Родина: сказочки и рассказики / Екатерина Лещинская; [иллюстрации: Алексеева К.]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2014. — 22 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-80-2.

### Беларуская літаратура

**Баравікова, Р. А.** Свята ў хату: народны каляндар часопіса «Вясёлка» / Раіса Баравікова; [фота Дзмітрыя Сапсая]. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2015. — 39 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-471-759-3.

**Нічыпаровіч, Г. М.** Забавы дзетвары: вершы: [для чытання дарослымі дзецям] / Галіна Нічыпаровіч; [мастак Алена Лось]. — Мінск: Звязда, 2015. — 28 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-575-011-7.

**Сіўчыкаў, У. М.** Кошык Велікодны: вершы: [для дзяцей] / Уладзімір Сіўчыкаў; [мастак Алена Карповіч]. — Мінск: Уладзімір Сіўчыкаў, 2014. — 30 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7030-15-6.

**Собака и Волк:** [белорусская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2015. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-194-2.

**Старынчык, А. А.** Хлусы: [вершы: для дзяцей] / Алег Старынчык; [мастак – Сяргей Харытончык]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014. — 8 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7092-86-4.

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры

**Актуальныя праблемы тэорыі літаратуры і фальклору:** працы кафедры тэорыі літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта / пад навуковай рэдакцыяй В. П. Рагойшы. — Мінск: Права і эканоміка, 2014–

Вып. 3: [да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 75-годдзя філалагічнага факультэта БДУ і 20-годдзя кафедры тэорыі літаратуры / укладальнікі: І. У. Ківель, В. В. Прыемка]. — 2014. — 209 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 80 экз. — ISBN 978-985-552-342-1.

**Сержанов, Г. А.** «Гой ты, Русь, моя родная...»: жизнь и творчество С. А. Есенина / Г. А. Сержанов. — Минск: Ковчег, 2014. — 209 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-91-7.

**Хрестоматия по теории литературы:** пособие для студентов, обучающихся по специальностям «Белорусская филология», «Русская филология» / [составители: Егоров И. В., Смирнов А. С.]. — Гродно: ГрГУ, 2014. — 371 с. — 61 экз. — ISBN 978-985-515-797-8.

**Шостак, Л. П.** Карточки-напоминалки: литературное чтение: 2–4-е классы / Л. П. Шостак, Т. М. Дименкова; под редакцией И. Б. Головановой. — 3-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2015. — 114 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-573-032-4.

### Беларуская літаратура

**Анапрэенка, Я. Р.** Здаецца мне...: эсэ пра Палуяна / Я. Р. Анапрэенка. — Мінск: ЦЛД [г. зн. б. в.], 2015. — 34 с. — 90 экз.

**Праблемы рэцэпцыі і інтэрпрэтацыі спадчыны Янкі Купалы:** XI Міжнародныя Купалаўскія чытанні, прысвечаныя 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзю заснавання Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы: матэрыялы навуковай канферэнцыі (Мінск, 19 чэрвеня 2014 г.) / [рэдкалегія: В. П. Рагойша (галоўны рэдактар), А. Р. Ляшковіч, Г. Ю. Варонава]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014. — 186 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-78-9.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Археалогія

**Язэпенка, І. М.** Паселішчы неаліту і ранняга перыяду эпохі бронзы міжрэчча Бярэзіны і Дняпра: манаграфія / І. М. Язэпенка; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі. — Магілёў: МгДУ, 2014. — 238 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-480-689-1.

### Краязнаўства

**Каляндар знамянальных і памятных дат на 2015 год** / ДУ «Віцебская абласная бібліятэка ім. У. І. Леніна», Аддзел краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі; [складальнікі: М. М. Бяляцкая, А. В. Радзевіч, А. А. Соладчук; рэдактары: Л. І. Рагачова, К. Д. Яскевіч]. — Віцебск: Віцебская абласная бібліятэка, 2014. — 166 с. — 5 экз.

**Край наш Прибужский:** [к 75-летию образования Брестского района / авторы текста — Ю. С. Рубашевский, Т. В. Шеламова; фото Г. Н. Козловского]. — Брест: Рекламно-информационное агентство «Вечерний Брест», 2014. — 119 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6964-46-9 (в пер.).

**Лепельскія чытанні:** матэрыялы VI навукова-практычнай канферэнцыі (Лепель, 17–18 кастрычніка 2014 г.) / [рэдкалегія: Я. А. Грэбень, А. У. Стэльмах]. — Мінск: Медысонт, 2014. — 247 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-7085-55-2.

**Магілёўшчына:** [гісторыка-краязнаўчы зборнік] / Галоўнае ўпраўленне ідэала-гічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама, Установа культуры «Магілёўскі абласны краязнаўчы музей імя Еўдакіма Раманавіча Раманава». — Магілёў, 1992–

Вып. 12 / [рэдакцыйны савет: А. А. Седзін (адказны рэдактар) і інш.]. — 2014. — 334 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 99 экз.

**Пинский район.** — Пинск: Пинская региональная типография, 2014. — 24 с. — 500 экз.

**Пружанский район:** история нашего времени. — [Брест: Брестская типография, 2014]. — 59 с. — Часть текста на белорусском языке. — 500 экз.

### Біяграфічныя і падобныя даследаванні

**Заливако, А. С.** Харевичи герба САС / Александр Заливако. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 155 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-6958-68-0 (в пер.).

**Шаланда, А. І.** Таямнічы свет беларускіх гербаў: шляхецкая геральдыка Вялікага Княства Літоўскага / Аляксей Шаланда. — Мінск : А. М. Янушкевіч, 2014. — 218 с. — Рэестр гербавых пячатак шляхты ВКЛ сярэдзіны XVI–XVIII ст.: с. 199–214. — 600 экз. — ISBN 978-985-90346-1-9.




***Миллман, Д. Творческий компас: [от первоначального замысла до публикации] / Дэн Миллман, Сьерра Прасада; [перевел с английского С. Э. Борич]. — Минск: Попурри, 2014. — 287 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-15-2430-9.***

*«Аўтары-пачаткоўцы знаходзяцца пад уціскам двух забабонаў адносна таленту. Па-першае, яны лічаць талент прыроджанай якасцю, нейкім таямнічым дарам, які немагчыма здабыць: ён або ёсць, або яго няма. Па-другое, яны перакананыя, што талент вызначае лёс чалавека», — пішуць аўтары кнігі «Творчы компас». У сваю чаргу Дэн Мілман і С'ера Прасада сцвярджаюць, што талент — толькі набор якасцей, якія дазваляюць хутчэй дасягнуць станоўчага выніку, і прапануюць цэлы шэраг парадаў для пісьменнікаў-пачаткоўцаў. Кніга падкажа, што рабіць, калі ў вас толькі з'явілася ідэя кнігі, як шліфаваць гатовы твор, дзе шукаць выдаўца, як знайсці выйсце з творчага крызісу. Магчыма, гэтыя парады не надта дапамогуць у плане творчасці, аднак яны могуць выдатна матываваць да працы і ўдасканалення ўласных пісьменніцкіх здольнасцей.*

**Шипилло–Szipillo**, Щипилло–Szczipillo XVI–XXI: [история рода / Александр Щепило]. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 583 с. — Часть текста на польском и белорусском языках. — 50 экз. — ISBN 978-985-7090-15-0 (в пер.).

### Гісторыя

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Архіварыус:** зборнік навуковых паведамленняў і артыкулаў / Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. — Мінск, 2001– — Выходзіць з 2001 г. — ISSN 2225-4412.

Вып. 12 / [рэдкалегія: В. В. Урублеўскі (адказны рэдактар) і інш.]. — НГАБ, 2014. — 470 с. — Тытульны л. і частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на польскай, рускай і ўкраінскай мовах. — 100 экз.

**Галенчанка, Г. Я.** Метрыка Вялікага Княства Літоўскага: гісторыя, даследаванні, выданні (кароткі нарыс) / Г. Я. Галенчанка; Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы. — Мінск: БелНДІДАС, 2014. — 87 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6733-91-1.

**Дакументальная спадчына Беларусі XIV–XX стагоддзяў:** матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 75-годдзю Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (Мінск, 26 чэрвеня 2013 г.) / [рэдкалегія: У. І. Адамушка (старшыня) і інш.]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014. — 266 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 100 экз. — ISBN 978-985-7092-88-8.

**Концепция выявления, описания, учета и использования документов по истории и культуре Беларуси, хранящихся за рубежом:** утверждено Департаментом по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь 21.03.14 / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Белорусский научно-исследовательский институт документоведения и архивного дела; [авторы-разработчики: Т. Д. Гернович и др.]. — Минск: БелНИИДАД, 2014. — 43 с. — Авторы-разработчики также: Жумарь С. В., Носевич В. Л., Рыбаков А. Е. — 100 экз. — ISBN 978-985-6733-92-8.

**Примерная номенклатура дел областных, зональных государственных архивов:** утверждено Департаментом по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь 09.09.14 / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Белорусский научно-исследовательский институт документоведения и архивного дела; [авторы-разработчики: Э. Н. Давыдова, Е. П. Дернович]. — Минск: БелНИИДАД, 2014. — 80 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6733-90-4.

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**История Средних веков: V–XIII вв.:** 6-й класс: хрестоматия: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [составители: И. О. Евтухов и др.; авторы текстов: И. О. Евтухов и др.; авторы методического аппарата: О. В. Забельникова и др.; под редакцией В. А. Федосика, И. О. Евтухова]. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 238 с. — 1613 экз. — ISBN 978-985-574-042-2.

**Россия, Беларусь, Украина:** история, современность, будущее: сборник научных материалов / Представительство Россотрудничества в Республике Беларусь, Институт истории Национальной академии наук Беларуси; [редколлегия: А. А. Коваленя (главный редактор) и др.]. — Минск: Медисонт, 2014. — 363 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7085-39-2 (в пер.).

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**История:** методические рекомендации для студентов, обучающихся по российским образовательным программам / Государственное учреждение высшего профессионального образования «Белорусско-Российский университет», Кафедра «Гуманитарные дисциплины»; [составитель С. Е. Макарова]. — Могилев: Белорусско-Российский университет, 2014–

Ч. 1: Внешняя политика России в XVIII–XIX вв. — 2014. — 31 с. — 31 экз.

**Якутовский, Г. П.** История Всея Великия, Белыя и Малыя Руси : [русская история без лжи и «белых пятен»] / Григорий Якутовский. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 157 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6958-76-5.

### Гісторыя Беларусі

**Аванесов, В. А.** Маршал Г. К. Жуков на белорусском пьедестале: воспоминания, размышления, документы / Владимир Аванесов. — Минск: Кнігазбор, 2014. — 67 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7119-09-7.

**Галимова, Н. П.** История Беларуси в контексте европейской цивилизации: учебно-методический комплекс для иностранных студентов непрофильных специальностей / Н. П. Галимова, Т. П. Савчук, Р. В. Чуль; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2014. — 132 с. — 75 экз. — ISBN 978-985-555-293-3.

**Гардзіенка, Н. С.** Рада БНР, 1970–1982: падзеі і дакументы / Наталля Гардзіенка, Лявон Юрэвіч; Беларускі інстытут навукі і мастацтва. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 299 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7119-10-3 (у пер.).

**Деружинский, В. В.** Тайны белорусской истории / Вадим Деружинский; под общей редакцией [и примечания] А. Е. Тараса. — Минск: ФУАинформ, 2014. — 558 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6868-94-1 (в пер.).

**Довнар-Запольский, М. В.** Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия / Митрофан Довнар-Запольский. — Минск: Харвест, 2014. — 237 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-3584-9 (в пер.).

**Завольнер, Г. А.** Судьбой написанные строки / Геня Завольнер. — Минск: Ковчег, 2014. — 120 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7121-15-1 (в пер.).

**Залівака, А. С.** Шляхта Віцебскай губерні. Радаводы. Кніга 2. Фасцыкул V / Аляксандр Залівака. — Мінск: Энцыклапедыкс, 2015. — 331 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-7090-39-6.

**Заливако, А. С.** Фамильный архив рода Заливако: сборник документов и материалов: в 5 кн. / Александр Заливако. — Минск, 2007–

**Кн. 2: XVII в.** — Энциклопедикс, 2014. — 357 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-7090-07-5.

**Иоффе, Э. Г.** Пантелеймон Пономаренко: «железный» сталинист / Эммануил Иоффе. — Минск: Харвест, 2014. — 253 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-18-3582-5 (в пер.).

**Козлов, И.** Они воевали под Сморгонью: [об участниках и деятелях Первой мировой войны 1914–1918 гг.] / Игорь Козлов. — Брест: РИА «Вечерний Брест», 2014. — 143 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6964-42-1 (в пер.).

**Лисицын, М. А.** Мой брат Иван Арсеньевич: [о великом защитнике Отечества, великом труженике в народном хозяйстве, великом гражданине своей страны] / Михаил Лисицын. — Минск: Национальная библиотека Беларуси, 2014. — 50 с. — 50 экз.




***Полинин, Е. Тайна одинокого оазиса: [повесть для среднего и старшего школьного возраста] / Евгений Полинин. — Минск: Букмастер, 2015. — 254 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-570-065-5 (в пер.).***

*Думаецца, не трэба яшчэ раз падкрэсліваць, што падлеткі вельмі любяць чытаць пра розныя прыгоды, падарожжы ў далёкія, невядомыя краіны, пошук скарбаў і разгадванне старажытных сакрэтаў. Таму кніга Яўгена Палініна вельмі хутка заваявала прызнанне аўдыторыі. Толькі ўявіце: экспедыцыя ў далёкую пустыню, дзе ў адзінокім аазісе знойдзеныя сляды старажытнай цывілізацыі… Сыну кіраўніка экспедыцыі сямнаццаць, і многія рэчы адбываюцца з ім упершыню менавіта падчас гэтага падарожжа. Героя і чытачоў чакаюць першыя адкрыцці, першае каханне, першыя дарослыя выпрабаванні і нават… самыя сапраўдныя цуды.*

**Лозицкий, В. Л.** История Беларуси (окончание XVIII – начало XXI в.): системная подготовка к централизованному тестированию: в 3 ч.: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования / В. Л. Лозицкий. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 29 см. — ISBN 978-985-574-046-0.

Ч. 2. — 2015. — 136 с. — 1313 экз. — ISBN 978-985-574-055-2.

Ч. 3. — 2015. — 193 с. — 1313 экз. — ISBN 978-985-574-056-9.

**Мельнікаў, І.** Заходнебеларуская Атлантыда 1921–1941 гг. / Ігар Мельнікаў. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 414 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7021-70-3.

**Навукова-практычная канферэнцыя** «Падзеі Першай сусветнай вайны ў лёсе Заходняй Беларусі»: (да 100-годдзя з пачатку Першай сусветнай вайны): зборнік дакладаў, 25–26 красавіка 2014 г. / [навуковы камітэт: старшыня – Грабёнкін Ігар Мікалаевіч і інш.]. — Брэст: БрГТУ, 2014. — 110 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-493-315-3.

**Панов, С. В.** История Беларуси: 11-й класс: билеты / С. В. Панов. — Минск: Аверсэв, 2015. — 144 с. — 40000 экз. — ISBN 978-985-19-1402-5.

**Панов, С. В.** Материалы для подготовки к обязательному экзамену по истории Беларуси: 11-й класс / С. В. Панов; под научной редакцией В. М. Фомина. — Минск: Аверсэв, 2015. — 319 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-19-1400-1.

**Паноў, С. В.** Матэрыялы для падрыхтоўкі да абавязковага экзамену па гісторыі Беларусі: 11-ты клас / С. В. Паноў; пад навуковай рэдакцыяй В. М. Фаміна. — Мінск: Аверсэв, 2015. — 318 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-19-1399-8.

**Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні:** матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 7–8 кастрычніка 2014 г.) / [навуковы рэдактар А. І. Лакотка]. — Мінск: Права і эканоміка, 2014. — 367 с. — Частка тэксту на англійскай, рускай і ўкраінскай мовах. — 50 экз. — ISBN 978-985-552-377-3.

**Прыватнаўласніцкія гарады Вялікага Княства Літоўскага:** лёс праз стагоддзі: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, Нясвіж, 23–24 красавіка 2014 г. / [рэдкалегія: С. М. Клімаў, З. Л. Яцкевіч, А. У. Блінец]. — Мінск: А. М. Янушкевіч, 2014. — 235 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-90346-3-3.

**Скараход, В. І.** Такая мая вайна: успаміны беларускага партызана / Віктар Скараход. — Мінск: В. Хурсік, 2014. — 366 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7025-36-7 (у пер.).

**Якутовский, Г. П.** Беларусь – это круто / Григорий Якутовский. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 60 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7090-31-0.

### Цывілізацыя. Культура. Прагрэс

**Гуманітарызацыя і культура:** зборнік навуковых прац выкладчыкаў, спецыялістаў і студэнтаў / Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт ім. А. С. Пушкіна, Кафедра спартыўных дысцыплінаў; [рэдкалегія: Ул. П. Люкевіч (старшыня) і інш.]. — Брэст: Альтернатива, 2014. — 114 с. — Частка тэксту паралельна на рускай і англійскай мовах. — Тэкст на рускай мове. — 50 экз. — ISBN 978-985-521-464-0.

**История культуры Беларуси:** курс лекций / Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный технологический университет; [составитель: Бездель Вероника Евгеньевна]. — Витебск: ВГТУ, 2014. — 96 с. — 97 экз. — ISBN 978-985-481-356-1.

**Лазаревич, А. А.** Беларусь: культурно-цивилизационный выбор / А. А. Лазаревич, И. Я. Левяш; [научный редактор И. Я. Левяш]; Национальная академия наук Беларуси, Институт философии. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 377 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1795-2 (в пер.).

**Смолік, А. І.** Беларуская культуралогія: гісторыя і сучаснасць / А. І. Смолік; Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. — Мінск: БДУКМ, 2014. — 275 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-522-092-4 (памылк.).

### Бібліяграфія і бібліяграфіі. Каталогі

**Александр Владимирович Соляник:** библиографический указатель / Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия; [составители: Г. М. Шиндикова, Е. М. Серегова]. — Горки: БГСХА, 2014. — 36 с. — 100 экз.

**Аляксандр Аляксандравіч Лукашанец:** да 60-годдзя з дня нараджэння / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Філіял «Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы»; [укладальнікі: І. У. Кандраценя, В. М. Нікалаева, І. У. Ялынцава; навуковы рэдактар: В. М. Нікалаева]. — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 97 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-08-1789-1.

**Аляксандр Іванавіч Смолік:** біябібліяграфічны даведнік: [да 70-годдзя з дня нараджэння] / Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Бібліятэка; [складальнікі: Т. А. Самайлюк, Т. В. Ішуціна]. — Мінск: БДУКМ, 2014. — 87 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-522-114-3.

**Жизненный путь, научно-педагогическая и производственная деятельность Э. А. Петровича:** воспоминания друзей и коллег: [к 75-летию Э. А. Петровича] / Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия; [составители: М. З. Фрейдин и др.]. — Горки: БГСХА, 2014. — 127 с. — 50 экз.

**Леонид Михайлович Сущеня:** к 85-летию со дня рождения / Национальная академия наук Беларуси, Научно-практический центр НАН Беларуси по биоресурсам; [составитель В. П. Семенченко]. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 85 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-08-1782-2.

**Рогач Пётр Ільіч:** бібліяграфічны даведнік: да 75-годдзя з дня нараджэння. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014. — 55 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7092-87-1.

**Станислав Иванович Гриб:** к 70-летию со дня рождения / Национальная академия наук Беларуси, Научно-практический центр по земледелию; [составители: Т. М. Булавина, В. В. Юрченко, Н. С. Шакура]. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 145 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-08-1792-1.

### Бібліятэчная справа. Бібліятэказнаўства

**Библиотеки в информационном обществе:** сохранение традиций и развитие новых технологий: доклады международной научной конференции, Минск, 3–4 декабря 2014 г. / [редколлегия: В. В. Юрченко и др.]. — Минск: Ковчег, 2014. — 229 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-7121-12-0 (в пер.).

**Живой родник веры** / [редактор-составитель О. А. Томашева]. — Минск: Красико-Принт, 2015. — 127 с. — 1150 экз. — ISBN 978-985-405-786-6.

**Казкі ў госці да нас** / [складальнікі: Л. І. Макаранка, В. А. Тамашова]. — Мінск: Красіка-Прынт, 2015. — 40 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 3630 экз. — ISBN 978-985-405-787-3.

*Маладзічок*

# Салодкія казкі

**Каб пісаць для дзяцей, асабліва — для зусім маленькага чытача, трэба мець асаблівы талент зносін з дзецьмі. А гэта і жаданне адкрываць новыя факты, звесткі з іх жыцця, і актыўны ўдзел у іх клопатах. Незалежна ад таго, дзе вы сутыкнуліся з хлопчыкамі і дзяўчынкамі: на пляцоўцы каля дома, на беразе ракі, у школьнай аўдыторыі, у грамадскім транспарце, проста на вуліцы. Вольга Савасцюк, мяркуючы па яе новай кнізе «Юлін рэстаран», умее размаўляць з дзецьмі, ведае, як кантактаваць з імі, чым зацікавіць.**




*Савасцюк, В.У. Юлін рэстаран: вершы, загадкі, казкі: для дзяцей мал. шк. узросту. — Мінск: Звязда, 2015. — 24 с.*

На вокладцы паэтычнага зборніка, складзенага з вершаў, загадак, казак, чытаем пра аўтара і кнігу: «Усе творы нараджаюцца з жыцця. І, калі да іх далучаюцца фантазія, уменне глядзець на свет вачыма дзіцяці, цікавыя вобразы, аўтарскі вымысел, можна разлічваць, што кніга знойдзе свайго чытача…» І далей — пра пачатак творчай дарогі аўтара кнігі: «Вершы пачала пісаць, калі ёй было 12 гадоў. Першыя творы для дзяцей напісаліся, калі нарадзіліся свае дзеці. Зараз яна піша вершы, казкі, апавяданні для сваіх унучак — цікаўных, дапытлівых дзяўчынак Олі і Тані. Шматлікія іх назіранні, думкі аўтар і перадала ў гэтай кніжцы праз сваіх герояў вам, маленькія чытачы…»

«Юлін рэстаран» — вершаваная казка, якая і дала назву ўсёй кнізе. «У суботу да бабулі / Завітала ў госці Юля. / Дні чатыры гасцявала, / А пасля засумавала…» А засумаваўшы, гарадская госця абышла ўвесь агарод, падзівілася праз плот і на грады суседзяў. І прыдумала сабе занятак:

*— У мяне, бабуля, план:*
*Я адкрыю рэстаран.*
*Міскі, лыжкі і каструлі*
*Пад паветку несла Юля.*

З самага пачатку В. Савасцюк стварыла свет гульні. Як быццам нічога незвычайнага. Такое можна падгледзець у жыцці. Але ж для гэтага трэба і зрок, і слых адпаведныя. І дзяцей, з самымі іх незвычайнымі памкненнямі, бачыць роўнымі сярод дарослых. Кожны юны — дзейсная, расшучая асоба. Можна паставіцца да жадання Юлі «адкрыць рэстаран» выключна як да гульні. А можна — нават і ў жанры казцы — сур'ёзна, па-даросламу паразважаць вакол цэлага жыццёвага спектакля, жыццёвай явы. «Доўга ежу гатавала. / Боршч, пюрэ, кампот, салаты… / Страў было ў меню багата. / Рэстаран назвала Юля / «На сядзібе ў бабулі».

Вольга Савасцюк — добры, лагодны апавядальнік (гэта відаць і па «Салодкай казцы», якая складзена з вершаваных загадак, і па іншых творах, што ўваходзяць у зборнік «Юлін рэстаран»). Паэтэса стараецца выбудаваць дыялог з юнымі чытачамі, запрашае іх да размовы. В. Савасцюк падводзіць да высновы, што дзіця — гэта ўдумлівая, яркая асоба, здольная і нас праз свае ацэнкі жыцця, навакольнага свету істотна ўзбагаціць.

Большасць твораў, з якіх складаецца зборнік, досыць рэльефныя, дынамічныя. А сама вершаваная казка, што дала назву ўсёй кнізе, — гэта спектакль вобразаў, мастацкіх параўнанняў. Як мне падаецца, «Юлін рэстаран» так і просіцца да сцэнічнага, тэатральнага ўвасаблення.

Кніга Вольгі Савасцюк, якая выйшла ў «звяздоўскай» серыі «Вясёлы калейдаскоп» (а раней у ёй пабачылі свет зборнікі Алеся Бадака, Анатоля Бутэвіча, Яніны Жабко, Віктара Ляскоўскага, Анатоля Зэкава і іншых аўтараў), багата ілюстравана. Аўтар арыгінальных малюнкаў — таленавітая мастачка Ангеліна Вашчанка.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# «Бярозку» ствараюць дзеці




Беларускамоўны часопіс для дзяцей і падлеткаў «Бярозка» са студзеня гэтага года зноў пачаў сваю працу ў якасці асобнага, самастойнага выдання. Што прапануюць маленькім чытачам і якія змены адбыліся ў канцэпцыі і знешнім выглядзе часопіса, распавяла галоўны рэдактар Святлана Дзянісава:

— «Бярозка» змянілася кардынальна. У параўнанні з тым, якім выданне было ў ранейшыя гады самастойнага існавання, і з тым часам, што правяло пад вокладкай часопіса «Маладосць», можна сказаць, засталася толькі ідэя, пакладзеная ў яго аснову: «Бярозка» — літаратурны часопіс для школьнікаў.

Цяпер у складзе выдання — некалькіх блокаў, кожны выконвае пэўныя функцыі. Першы блок — уласна літаратурна-мастацкі, прадстаўлены рубрыкамі «Верасок» з прозай і паэзіяй для дзетак і «Літаратурныя старонкі» з творамі вядомых беларускіх пісьменнікаў. Гэтыя рубрыкі сімвалізуюць і яго ідэю, і пераемнасць традыцый. Сярэдзіна выдання — абсалютна новыя спецыяльныя праекты. Рубрыка «Бел.літ» навучыць школьніка чытаць, асабліва школьную праграму. Аўтарамі ў «Бел.літ» запрашаны пісьменнікі, чые творы друкуюцца ў падручніках, і выкладчыкі, якія могуць нестандартна і даступна, нават дасціпна патлумачыць юным чытачам галоўны сэнс твора. Рубрыкі «Практыкум» і «Школа журналістыкі» даюць урокі стварэння мастацкіх тэкстаў і прадстаўляюць вынікі працы школьнікаў, якія мараць стаць журналістамі. Рэпартажы, інтэрв'ю, артыкулы, агляды, нататкі «Школы журналістыкі» аздабляюцца стылізаванай пячаткай «Друкавалася ў «Бярозцы», іх можна прадстаўляць на творчы конкурс пры паступленні ў Інстытут журналістыкі. Паспрабаваць сябе ў іншых блізкіх да прыгожага пісьменства сферах можна ў блоку калумністаў, які спецыяльна для гэтага ўтрымлівае калонкі «Па-даросламу», «Пазакласнае», «Калі сур'ёзна», «Па палічках», «Спартыўнае». Магчымасць вучыцца пісаць дае таксама рубрыка «Я сардэчка Беларусь» — спецыяльная прастора пра пачуцці да Радзімы, яе здабыткі і хараство.

Прадстаўлены і забаўляльныя, і пазнавальныя праекты. «Табе навука» распачала серыю публікацый праграміста Ягора Валянкова. Літаратурна-кулінарная рубрыка «Гатавальня» друкуе даступныя рэцэпты страў, якія сустракаюцца на старонках літаратурных твораў. Новы блок, які з'явіўся са жніўня, —«Зярняткі веры». Тут мы друкуем малітваслоў, тлумачым сэнс царкоўных дзеянняў, прадметаў, падзей... Праз супрацоўніцтва з Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь у кожным нумары «чытаем» ікону, якая знаходзіцца ў калекцыях музея.

Але вернемся да блока калумністаў. Старонка трынаццатая. Так і калонка называецца: «13-я». Вядучы… прывід Аркаша. Не думаю, што ў якім-небудзь яшчэ часопісе калонку вядзе здань.

Асноўнае ж адрозненне сённяшняй «Бярозкі» — у падыходзе: друкуем не толькі тое, што само «прыплывае» ў рэдакцыю, — увесь час шукаем новыя ідэі. Сёння часопіс «Бярозка» на 75 працэнтаў ствараецца дзецьмі, вокладка кожнага нумара — гэта абавязкова дзіцячы малюнак. Мы даверылі школьнікам рабіць «Бярозку», а самі… Самі з'яўляемся мадэратарамі гэтага працэсу.

**Вікторыя АСКЕРА**

Незапыленае

## Падаравалі пісьмовы прыбор

*Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа прадстаўляе*



«Новая зямля» 1941 года. Ацалелы сігнальны экзэмпляр даваеннага выдання паэмы з дарчым надпісам аўтара настаўніцы Аляксандры Дзмітрыеўне Жукоўскай.



Дзве срэбраныя чарачкі. Рэчы антыкварныя, на кожнай стаіць старая 84-я проба, якая адпавядае 875-й сучаснай. Год вырабу 1863. Падарунак Якубу Коласу і яго жонцы ад Янкі Купалы і Уладзіславы Францаўны Луцэвіч на сярэбранае вяселле. Унізе гравіроўка: рымская лічба XXV (25 гадоў сумеснага жыцця) і літары МКМ (Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч), на донцы — МД (Марыя Дзмітрыеўна).

Чарнільны прыбор (1945 год). Падараваны Якубу Коласу ў дзень нараджэння 3 лістапада 1945 года сябрамі-пісьменнікамі і адказнымі супрацоўнікамі Акадэміі навук БССР. У дзённіку «На схіле дзён» Якуб Колас запісаў: «Дзень майго нараджэння. Сабралася досыць многа народу. Былі пісьменнікі Лынькоў, Крапіва, два Петрусі, Лужанін. Ад Акадэміі Гораў, Ляонаў, Шэмпель… Усяго за 20 чалавек. Падаравалі пісьмовы прыбор».



Апошні ліст. Пісаны 13 жніўня 1956 года да сябра Яўгена Мазалькова, перакладчыка «Новай зямлі». Дапісаць гэты ліст Якуб Колас не паспеў, бо памёр у 13 гадзін 20 хвілін.



Рукапіс. Урывак паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка».

*Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вул. Акадэмічная, 5.*

*Пасляслоўе*

# З вуліцы Светлай

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адбылася прэзентацыя кнігі «Дарыў святло сваёй душы людзям і Айчыне», з якой ужо знаёмыя чытачы «ЛіМа».**

На мерапрыемства прыйшлі сваякі і вучні вядомага літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук Юльяна Пшыркова, каб падзяліцца ўражаннямі ад новага выдання і яшчэ раз прыгадаць светлага чалавека з вуліцы Светлай.

Па словах даследчыка Уладзіміра Гніламёдава, Юльян Сяргеевіч быў магутным чалавекам праадраджэння, а да таго ж чалавекам адлігі: менавіта ў 60-я гады ён асабліва расквітнеў у інтэлектуальным плане. «Юльян Пшыркоў — надзвычай сардэчны і таварыскі — заўсёды быў разам са сваімі калегамі па Акадэміі навук. Разам у вандроўках, разам за бяседным сталом. Пры гэтым як навукоўца ён быў прынцыповым і цвёрдым, і калі не згаджаўся з нейкай навуковай канцэпцыяй, то спрачацца не мела сэнсу».

Гродзенскі літаратуразнаўца Аляксей Пяткевіч адзначыў, што Юльян Пшыркоў быў даследчыкам, схільным да дыскусій і адмаўлення агульнапрынятых догмаў.

Падчас сустрэчы дэманстраваўся дакументальны фільм, падрыхтаваны Таццянай Юльянаўнай Пшырковай, — фільм не толькі пра бацьку, але і пра яго сяброў, між якімі Уладзімір Дубоўка і Алесь Адамовіч.

Больш даведацца пра даследчыка можна не толькі падчас музейнай сустрэчы. Як адзначылі ўдзельнікі прэзентацыі, кніга ўспамінаў лёгка ўспрымаецца і нібы прымае чытача ў шырокае кола родзічаў, супрацоўнікаў і вучняў Юльяна Пшыркова.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Рамонкі на фоне куль

**Два байцы каля зброі ў чаканні атакі, а побач — белая россып пяшчотных рамонкаў — як напамін пра мірны час, тых, хто чакае ў роднай хаце... Дзякуючы фотарэпартажам Васіля Аркашава, якія ўвайшлі ў кнігу «Мая вайна», мы бачым, нібы ў кінастужцы, аблічча далёкіх, але такіх памятных гадоў. Увесь гэты час галоўнай зброяй карэспандэнта была фотакамера. Рызыкуючы жыццём, ён кожны дзень ствараў ваенны летапіс.**

Кніга, якая выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», — альбом са здымкамі, што захавалі не толькі выявы, але і імёны, прозвішчы байцоў, іх гераічныя ўчынкі. У выданне ўвайшлі яшчэ і ўражанні аўтара — у форме армейскага дзённіка.

## НА ЛІНІІ АГНЮ

Скончыўшы курсы фотапрэсбюро ў Харкаве (1933 г.), малады фатограф паспеў некалькі гадоў спакойна папрацаваць ва ўкраінскіх выданнях. Потым — служба. Васіль Аркашаў стаў фотакарэспандэнтам спачатку армейскай газеты «Знішчым ворага», а потым франтавой — «Чырвоноармейская праўда». Прайшоў доўгі, небяспечны баявы шлях ад Мінска да Масквы, а потым і да Кёнігсберга. Смаленск, Гжацк, Мажайск, іншыя гарады і вёскі, дзе ішлі бясконцыя, кровапралітныя баі. Фотаздымкі Васіль рабіў у любых умовах.

Як усё пачалося? Вярнуўся 25 чэрвеня 1941 года з адпачынку ў родную рэдакцыю, а Мінск ужо гарэў, у небе — фашысцкія самалёты, як драпежныя чорныя птушкі... Толькі пад вечар Аркашаў знайшоў у лесе свой працоўны калектыў. А на другі дзень яго накіравалі на першае заданне — у палкі 100-й стралковай дывізіі, у самую гушчу падзей.

## БЕЗ ПРАВА НА ПАДРЫХТОЎКУ

Перш-наперш аўтар зафіксаваў на плёнцы падрыхтоўку байцоў да абарончага рубяжа ўздоўж Лагойскай шашы і ў раёне Астрашыцкага гарадка, іх «дэбютныя» адпор ворагу, залпы артылерыйскага агню і ўспышкі бутэлек з гаручай сумессю вакол сотні фашысцкіх машын смерці... Пра гэта распавядаюць здымкі Васіля Іванавіча, зробленыя ў самым пачатку вайны, у 1941-м. Фотакарэспандэнта ніхто не вучыў, як адхінацца ад куль ці захоўваць тэхніку, калі вакол ірвецца зямля, як выжыць самому... Але ён выжыў!

На большасці фотаздымкаў — тыповыя франтавыя абставіны. Эвакуацыя параненых, праца ў шпіталі. Мы бачым, як гарніст падае сігнал трывогі, як для кулямётаў маскіруюць агнявую пазіцыю, а побач коннікі перапраўляюцца праз рэчку. Здаецца, на фатаграфіях баёў воіны ў бясконцым руху: збіраюцца на разведку, вядуць агонь, сядзяць у засадзе…

## ПЯРОМ ПУБЛІЦЫСТА

У дзённіку аўтар апісвае падзеі тонка, паслядоўна і выразна — як праўдзівы і аб'ектыўны публіцыст. У невялікім, але кранальным тэксце, што суправаджае фотаздымкі, ёсць усё: дыялогі, удала пазначаныя рысы характараў байцоў, напружаная атмасфера.

«Вакол агнявой пазіцыі, амаль упрытык да снежных валоў, злавесна цямнелі варонкі ад авіябомбаў. Здавалася, міма зенітчыкаў пратупала слановымі нажышчамі сама смерць», — распавядае Васіль Аркашаў. А потым… «Батарэя загаварыла. Насустрач самалётам




узляцелі снарады. Разрываючыся ў небе, яны ўспыхвалі, як маленькія зорачкі, і імгненна згасалі. Дзевяць «юнкерсаў» строем плылі на батарэю, а чатыры гарматкі люта вялі агонь». Ён трапна назваў адзін з баёў «паядынкам нерваў» паміж нямецкімі лётчыкамі і нашымі артылерыстамі. Моцны эфект прысутнасці замест доўгіх апісанняў ствараюць фатаграфіі.

## ЭМОЦЫІ «Ў ФОКУСЕ»

Што адчувалі самі воіны? Як хапала сіл, пакідаючы больш-менш бяспечныя акопы, бегчы насустрач ворагу, ведаючы, што вось-вось падарвешся на міне? Фотамайстар паказаў твары герояў, непадробныя эмоцыі тых, хто падаваў абойму, закладваў у зброю, лавіў цэль ці падаваў каманду. На фотапартрэтах — моцныя людзі з цвёрдай воляй, адметныя сваёй адухоўленасцю, рашучасцю, гатоўнасцю да ахвяр.

Здымкі перадаюць кульмінацыйныя моманты ваенных падзей. Гэта кадры з серыі тых, што маглі каштаваць жыцця свайму стваральніку: два фашысцкія самалёты, якія толькі што загарэліся ў небе, танк, агорнуты полымем, які на шалёнай хуткасці нясецца ўздоўж траншэі, а побач выбухаюць боепрыпасы.

«З акопчыка, дзе я сяджу, добра бачныя падпаленыя ўдалечыні танкі. Каб знішчыць іх, трэба высунуцца наперад. Але як гэта зрабіць? Вакол разрываюцца міны і снарады. Злымі шэршнямі кулі ўгрызаюцца ў зямлю. Але і момант нельга ўпусціць», — прызнаецца ў нататках фатограф. Перад тварам вайны ўсе на роўных, і ён сам, малады чалавек, які трапіў у сэрца сапраўднага пекла, такі ж салдат. Бясконцыя перабежкі, сутычкі з нямецкімі самалётамі і зброяй, сотні забітых, пастаянная рызыка страціць з цяжкасцю здабытыя фотаздымкі — малая частка ўсяго, праз што яму давялося прайсці.

## КАРОТКІЯ ХВІЛІНЫ СПАКОЮ

Здымкі адлюстроўваюць не толькі баявыя эпізоды, атакі і пераправы, ад якіх халадзее сэрца, але і спакойную карціну армейскага побыту, што дае надзею. Адзін з самых рарытэтных фотаздымкаў: рускі пісьменнік Міхаіл Шолахаў гутарыць з навабранцамі. Можна ўбачыць і моманты, калі байцы проста сядзяць разам, размаўляюць, абмяркоўваюць планы і мары, гатуюць абед, грэюцца ля вогнішча і нават зацягваюць песні і танцуюць пад гармонік. Часта трапляе пад увагу аўтара чытанне — ці то кнігі Мікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь» (выданне было вельмі папулярным!), ці то ваенная перыёдыка. На гэтых здымках адносна спакойнага часу рысы твараў салдат мякчэюць, у іх бачыцца менш напружання. Адразу відаць, што перад намі — зусім яшчэ юнакі.

Нельга не запомніць фотаздымак, дзе старшына адной з танкавых брыгад Заходняга фронту выдае воінам цёплыя рэчы. Колькі радасці! Тое ж пасля лістоў з дому — гэты момант Васіль Аркашаў таксама не ўпусціў.

У кнізе можна ўбачыць і фрагменты ваеннай тэхнікі: пабітыя нямецкія прылады, савецкія кулямёты ў дзеянні. Нават залпы «Кацюшы» падчас аперацыі «Баграціён» (чэрвень 1944 г., Беларусь)! Уражвае яшчэ і неба: з выразнымі хмарамі, нахмуранае, залітае смугой, пылам.

## СВАБОДА І СПУСТАШЭННЕ

Не хочацца падзяляць кнігу на част-кі — успрыманне суцэльнае, як дакументальны фільм. Але, тым не менш, складальнікі ўмоўна пазначылі тры раздзелы для больш зручнага арыентавання: у першым распавядаецца пра падзеі 1941-га ў Беларусі, Смаленскай вобласці, затым геаграфію пашыраюць да Маскоўскай вобласці, і, нарэшце, — вызваленне гарадоў Гжацка, Вязьмы, Дарагабужа, Ельні, Смаленска, Мінска, Гродна і іншых гарадоў у 1943 — 1945-х гадах.

Не пакінуць абыякавымі фота разбураных дамоў, але яшчэ больш — людзей, якія вяртаюцца на папялішчы родных мясцін, з дробнымі пажыткамі, у выцвілай вопратцы. Асабліва варта вылучыць фота «Жыхары Мажайска вяртаюцца дадому пасля вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» (студзень 1942 г., Маскоўская вобласць). На іх тварах аўтар улавіў супярэчлівыя пачуцці: гора і слёзы, радасць ад вызвалення, шанцу пачаць жыццё нанова. На іншых кадрах: дзеці і жанчыны ідуць па пыльных дарогах, хтосьці едзе на павозках. А вось малы гадоў трох, Коля Арлоў, чыіх бацькоў сагналі ў Нямеччыну, глядзіць у камеру і не разумее: што яму рабіць цяпер? Але ён выжыў — гэта галоўнае!..

Перад чытачом адкрываюцца і выразныя панарамныя віды спустошаных нямецка-фашысцкімі захопнікамі гарадоў, маленькіх вёсачак. Кранае здымак, які паказвае, як савецкія салдаты садзяць дрэвы на вызваленай тэрыторыі Усходняй Прусіі ў 1945-м годзе.

Уражвае заўважаны аб'ектывам надпіс на сцяне разбуранага дома па вул. Чырвоны Ручай у Смаленску, пакінуты ўдзельнікамі вызвалення горада: «Прывітанне родным ад сына». А ў згаданай кнізе М. Астроўскага «Як гартавалася сталь», знойдзенай на дарозе байцамі, дзявочай рукой выведзена: «Ратуйце. Мы чуем ваш голас. Ура!!! У нас рвуцца сэрцы. 23.6.44. Вашы дзяўчыны». Гэта таксама сведкі эпохі.

## АДДАНЫ СВАЁЙ СПРАВЕ

Фотаальбом «Мая вайна» — гэта сумесны праект Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі краіны і Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў. Здымкі Васіля Аркашава захоўваюцца ў апошнім — усяго іх 508, але ў выданне ўвайшла прыкладна палова.

Калі Вялікая Айчынная вайна скончылася, савецкі фатограф працягваў працаваць у ваеннай прэсе — газетах Беларускай ваеннай акругі, Групы савецкіх войскаў у Германіі... З 1971 года — фотакарэспандэнт творчай студыі Саюза журналістаў «Фота і жыццё».

Кніга «Мая вайна» не адзіная ў творчай спадчыне аўтара. У 1969 г. з друку выйшаў альбом «Франтавымі дарогамі», а потым і зборнік дакументальных апавяданняў «Мы сустракаліся ў баі». Васіль Аркашаў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, двума медалямі «За баявыя заслугі».

Яшчэ доўга стаяць перад вачыма яго фотаздымкі, варта толькі перагарнуць апошнюю старонку кнігі. Гісторыя жыве ў тых, хто памятае, не адракаецца ад мінуўшчыны, а хоча ведаць, вывучаць яе — дзеля мірнай, спакойнай будучыні.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Тэатральны маятнік



**Пачатку тэатральнага сезона прыхільнікі Мельпамены чакаюць з нецярпеннем. Заўсёды цікава, што новага прапануюць галоўныя дзеючыя асобы сцэны — акцёры, рэжысёры, арганізатары тэатральнага працэсу. На гэтую тэму — гутарка з памочнікам мастацкага кіраўніка Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Вацлавам Валадзько.**

**— Вы доўгі час курыравалі творчую дзейнасць прафесійных тэатральных калектываў у Міністэрстве культуры. За гэты тэрмін айчынныя тэатры перажывалі розныя перыяды, нават ішлі размовы пра крызіс і перспектыву занепаду... На вашу думку, ці існуюць сёння падставы для песімізму?**

— Размовы пра крызісы ідуць, скажам так, перыядычна. Асабіста мне ўсе ўзлёты і падзенні нагадваюць работу вялізнага маятніка: тэатральны працэс — з'ява не лінейнага парадку, цяжкасці і поспехі былі і будуць заўсёды. На шчасце, прафесійныя майстры сцэны, усе яе практыкі разумеюць гэта лепш, чым тэарэтыкі мастацтва.

**— Гаворка ідзе, перш за ўсё, пра крызіс мадэлі рэпертуарнага тэатра. Яна нібыта састарэла, вычарпала маральныя і фізічныя магчымасці, таму сцэна не можа задаволіць патрабаванняў сучаснага гледача.**

— Я не падзяляю думкі, што цалкам усё грамадства чакае ад тэатра забавак. Тэатр, у лепшых сваіх узорах, прапануе гледачу работу сэрца і розуму. Бывае, нават вельмі напружаную. Задача сучаснага тэатра — дапамагчы грамадству духоўна ачысціцца, удасканаліцца. Ці не да гэтага павінны імкнуцца стваральнікі сапраўднага мастацтва незалежна ад яго віду, жанру, мадэлі?

**— Раней заканадаўцамі тэатральных густаў былі толькі дзяржаўныя тэатральныя ўстановы. А цяпер?**

— Сёння мы таксама вітаем існаванне розных альтэрнатыўных суполак і фарміраванняў. У Мінску з'явіліся, напрыклад, «Сучасны мастацкі тэатр», «Тэатр Ч», «Карняг-тэатр», іншыя калектывы, што цікава прэзентавалі сябе ў праграме міжнароднага фестывалю «ТЭАРТ — 2014». Дарэчы, пазнаёміўшыся з некалькімі спектаклямі Яўгена Карнягі, я прыйшоў да высновы, што можна было б прапанаваць гэтаму рэжысёру пастаноўку ў адным з вядучых дзярж-тэатраў краіны.

**— Ці распаўсюджана сёння практыка запрашэння новага рэжысёра для трупы?**

— Калі падобнае адбываецца, то даволі рэдка. Ёсць таму шэраг аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын. Між тым новы запрошаны на пастаноўку рэжысёр — як свежае паветра.

*„Я не падзяляю думкі, што цалкам усё грамадства чакае ад тэатра забавак. Тэатр, у лепшых сваіх узорах, прапануе гледачу работу сэрца і розуму. Бывае, нават вельмі напружаную.*

**— Вацлаў Браніслававіч, якія, на ваш погляд, вартасці ў рэпертуарнага тэатра?**

— Яны ў стабільнай, прадуманай і спланаванай рабоце з гледачом, у паслядоўнасці творчай палітыкі і шырыні рэпертуарнага дыяпазону, адпрацаванасці сістэмы прафесійнага выхавання трупы. Менавіта на гэтыя калектывы ўскладзены ўвесь цяжар захавання і развіцця лепшых сцэнічных традыцый нацыянальнага тэатра. Авангардная роля ў тых, што маюць статус «нацыянальны». Ці задавальняюць гледача іх мастацкія дасягненні? Не заўсёды: чалавеку дваццаць першага стагоддзя хочацца больш разнастайных пастановак і шырыні мастацкай думкі. Але, разам з тым, такія тэатры — самае лепшае, што мы сёння маем.

**— Са сцэн Акадэміі мастацтваў Беларусі штогод «выходзяць» тэатральныя рэжысёры, але чаму яны так слаба заяўляюць пра сябе?**

— Не буду паглыбляцца ва ўсе пытанні падрыхтоўкі рэжысёрскіх кадраў, але… Лічу, мы не павінны навучаць гэтай прафесіі маладых людзей адразу пасля школы. Рэжысура тэатра — справа асоб са значным жыццёвым досведам, з ужо сфарміраваным філасофскім мысленнем і эстэтычным густам.

**— Многія праблемы звязаны сёння з нізкай прэстыжнасцю тэатральных прафесій — крытыкаў, драматургаў…**

— Існуе шмат форм і метадаў падтрымкі розных катэгорый творцаў тэатра. Калісьці рэгулярна праводзіліся конкурсы на стварэнне новых п'ес, арганізоўваліся навукова-практычныя канферэнцыі, аналітычныя агляды вынікаў сезонаў, перыядычна ладзіліся конкурсы маладых рэжысёраў на лепшую экспліказыю п'ес. Рэпертуарная калегія на падставе сацыяльна-творчых дамоў з тэатрамі вяла работу па пастаноўцы драматургічных твораў пачынаючых аўтараў. Сёння арганізатары тэатральнага жыцця, на жаль, мала карыстаюцца напрацаваным. Што да новых падыходаў… Варта ўзгадаць заснаванне Нацыянальнай тэатральнай прэміі, палажэнне аб якой, праўда, пакуль усё яшчэ дапрацоўваецца.

**— Якое ваша стаўленне да пастаноўкі замежнай драматургіі на сцэне беларускіх тэатраў — Шэкспіра, Стрынберга, Мрожака?**

— Без сумніву, нацыянальны тэатр павінен кантактаваць, не ўпускаць сувязі з замежнай драматургіяй і тэатрамі свету, суадносіць сябе з імі. Важна пры гэтым, каб тэатры, займаючыся такімі пастаноўкамі, не забывалі даваць магчымасць нашым аўтарам спрабаваць свае сілы на сцэне. Без гэтага не народзіцца ні свой Шэкспір, ні Чэхаў. На жаль, такая небяспека ёсць пастаянна. Каб неяк гэтага пазбегнуць, у 1990 годзе і быў створаны новы тэатр з мэтай зрабіць яго творчай лабараторыяй для пачынаючых перспектыўных аўтараў — Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, які ўжо даўно працуе як звычайная тэатральная пляцоўка з гадавым планам абслугоўвання насельніцтва. Для лабараторных пошукаў пры гэтай установе ў 2007 годзе адкрылі Цэнтр беларускай драматургіі.

**— Тэатралы старэйшага пакалення з настальгіяй узгадваюць перыяд роскввіту фестывальнага руху, пік якога прыходзіўся на часы так званай перабудовы. Вы па тым часе не сумуеце?**

— Чаму б і не пасумаваць… Тады за год праводзілася 5-6 міжнародных і рэспубліканскіх святаў. Мы хацелі паказаць свой тэатр, сваю культуру, тым больш нацыянальную, на ўсім свеце. Частка фестываляў, заснаваных у тыя часы, знікла, напрыклад, міжнародны фестываль «Панарама», але замест яго, дзякуй богу, з'явіўся «ТЭАРТ». З поспехам праводзіцца «Белая вежа» ў Брэсце. Захаваўся фестываль нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску. Дарэчы, менавіта апошні, як мне падаецца, мог бы быць сярод тэатральных фэстаў адным з галоўных.

**— Як вам бачацца працэсы, што адбываюцца ў сучаснай беларускай драматургіі?**

— Варта ўзгадаць так званую навадрамаўскую плынь і творчыя шуканні яе прадстаўнікоў, за чым уважліва і з надзеяй сочаць не толькі ў нашай краіне. За гэтым драматургічным напрамкам стаяць імёны Паўла Пражко, Дзмітрыя Багаслаўскага ды іншых маладых аўтараў. А прываблівають больш за ўсё навізной формы.

**Нэла КРЫВАШЭЕВА**

# Эксперымент? Дзёрзкі!

**Звычайная груша выглядае на фатаграфіі як дэкарацыя да фільма-нуар: рэзкія пераліва святла і ценю ствараюць злавеснае ўражанне ад, здавалася б, звычайнай садавіны, якую мы прывыклі бачыць на паліцах крам... Што гэта: чорны гумар, меланхалічная рамантыка альбо практыкаванні на мяжы падсвядомасці?**

Выстаўка Карын Дэамброзіс, французскай фотамастачкі, якая адкрылася ў галерэі «Кніжны салон», расчаруе аматараў класічных вобразаў, але ўзрадуе прыхільнікаў эксперыментальнай творчасці. Серыя нацюрмортаў называецца «*Présent décomposé*» — гэта гульня слоў з прыблізным значэннем «сучаснасць, якая распадаецца на часткі». Экспазіцыя ўжо дэманстравалася ў Парыжы і Барселоне.

Якую ж ідэю можна ўбачыць на здымках, што паказваюць разрэзаны напалам гранат, сціплую кветку побач з люстэркам ці развешаныя на вяроўцы пакуначкі гарбаты? Здаецца, гэта пошукі аўтарам сябе, мастацкая дзёрзкасць, эксперымент. Працы пранізвае меланхолія, самотнасць, адзінота. Невыпадковыя тут чорна-белыя тоны, атмасфера рэтраспектывы. На фота ў асноўным адзінкавыя прадметы ў акружэнні студыйнага палатна і таямнічых ценяў, створаных аўтарам дзякуючы ўмелай пастаноўцы светлавога пэндзля.



Фатаграфіі выкананы ў традыцыйнай тэхніцы. Плёнку Карын Дэамброзіс праяўляла ў майстэрні, а потым самастойна друкавала негатывы. У свеце мастацтва творца вядомая як рамантык, чалавек, які надзяляе свае працы паэтычным «флёрам», асаблівай аўрай і глыбінёй. Ёсць у яе і партрэты: ад вядомых дзеячаў мастацтва Францыі да звычайных людзей любых прафесій. Сустракаюцца пейзажныя здымкі: выявы Парыжа, фотанарысы з вандровак, у прыватнасці пра вёску Мерал на паўднёвым захадзе Францыі, рэпартажы пра мастацкія майстэрні, джазавыя фестывалі, тэатральнае жыццё.

Стартам творчай біяграфіі Карын стала Школа французскага фотатаварыства. Потым мастачка працавала асістэнтам у прафесійных фатографаў, а з пачатку 1990-х гг. — у вольным плаванні. Супрацоўнічала з архітэктарамі, выконвала заказы многіх музеяў. Дарэчы, апошнія 10 гадоў Карын Дэамброзіс працуе пазаштатным фатографам у Таварыстве музеяў Францыі, занатоўваючы на плёнку аб'екты, якія з'яўляюцца нацыянальным здабыткам Францыі! Яе талент ацаніў нават Луўр, звярнуўшыся з прапановай аб партнёрстве. Цяпер здымкі Карын Дэамброзіс шырока выкарыстоўваюцца пры выданні манаграфій і каталогаў выставак аднаго з найбуйнейшых мастацкіх музеяў свету.

«Беларуская публіка ўжо знаёмая з творчасцю французжанкі: у мінулым годзе ў Мінску была прадстаўлена яе выстаўка «Французская глыбінка». Падчас майстар-класа Карын Дэамброзіс распавяла нашым мастацтвазнаўцам, мастакам, музейшчыкам пра асаблівасці фатаграфавання скульптуры. У Карын ужо ёсць фатаграфіі са Смілавіч, Палесся — спадзяёмся, што беларусы хутка іх убачаць», — адзначыў на адкрыцці выстаўкі ў «Кніжным салоне» дырэктар прыватнай установы культуры «Спадчына і час», куратар экспазіцыі Юрый Абдурахманаў.

Карын Дэамброзіс — рэзідэнт «Вулля», знакамітага парыжскага інтэрната для мастакоў, звязанага з такімі вядомымі мастакамі, выхадцамі з Беларусі, як Марк Шагал, Хаім Суцін, Восіп Цадкін.

**Марыя ВОЙЦІК**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Фотапозірк*

# Кобрынскае «Золата палёў»

**Здаўна нашы продкі адзначалі завяршэнне жніва і віншавалі хлебаробаў. Працягваюць традыцыю і сёння. Кобрыншчына ўжо не першы раз збірае сваіх герояў на свята традыцыйнай культуры «Золата палёў», якое ладзіцца на аграсядзібе «Студзінка». Сёлета віншаваць аграрыяў было прыемней удвая — ураджай рэкордны.**





Час аддаць пад сярпы апошнюю дзялянку. Гучаць дажыначныя песні. Гаспадар аграсядзібы Васіль Новік абыходзіць загон, акрапляе святой вадой. Жнеі — за сярпы...

І вось снапы ўжо гатовыя. Свята пачалося! На сцэне — галоўныя ўдзельнікі — механізатары, вадзіцелі, усе, хто збіраў ураджай. Уручэнне прэмій, падарункі, песні ў выкананні фальклорных калектываў.

Далей — раённы этап конкурсу сельскагаспадарчага праекта «Уладар сяла», які праводзіцца пад эгідай Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі.

Завяршылася «Золата палёў» яркім феерверкам.

**Людміла ПАШКОВІЧ,**
**фота аўтара**

# Зазірнём у скрыпторый?

**Полацкаму Музею беларускага кнігадрукавання — чвэрць стагоддзя. Адкрыццё ўстановы ў 1990-м было прымеркавана да святкавання 500-годдзя з дня нараджэння першага беларускага кнігадрукара Францыска Скарыны.**

Асноўную частку музейных экспанатаў складаюць рукапісныя і старадрукаваныя кнігі. Сярод рарытэтаў — «Евангелле вучыцельнае», «Мінея агульная». Дастаткова і сучасных выданняў. Да ўвагі наведвальнікаў — часопісы і газеты розных гадоў, паштоўкі, лістоўкі, календары, буклеты.

Каб здзейсніць вандроўку ў часе і ўявіць нялёгкі працэс стварэння рукапісных кніг, узнавілі майстэрню перапісчыка кніг — скрыпторый, дзе можна ўбачыць манаха-перапісчыка з гусіным пяром.

У музеі пройдзе некалькі цікавых выставак. Адна прыедзе ў Полацк з Вялікага Ноўгарада (Расія): у экспазіцыі — каштоўныя выданні XVI — XIX стагоддзяў. Другая ж прадставіць палачанам і гасцям горада сапраўдныя выданні Францыска Скарыны, якія захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, — «Першую кнігу Царстваў» і «Еклесіяст». Акрамя таго, запланавана выстаўка «Лепшыя кнігі Беларусі», якая пазнаёміць з самымі прыгожымі выданнямі — лаўрэатамі Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2014».

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Этнаграфія без стэрэатыпаў

**Сёлета споўнілася 170 гадоў з дня нараджэння беларускага фальклярыста, этнографа і навукоўца Мікалая Нікіфароўскага.**

Мікалай Якаўлевіч нарадзіўся ў сям'і беднага вясковага дзяка Вымнянскай царквы, што на Віцебшчыне. Хлопчык змалку зведаў голад, нястачу і пагарду. Маці заўсёды паўтарала дзецям, што галоўная прычына беднасці іх сям'і — непісьменнасць, таму Міколка цвёрда вырашыў стаць адукаваным чалавекам. Пасля заняткаў у некалькіх напаўлегальных вясковых школах ён разам з братам Міхаілам паступае ў Віцебскае духоўнае вучылішча і адначасова, каб займацца за казённы кошт, хлопчыкі на шэсць год становяцца пеўчымі ў Архірэйскім хоры.

Мікалай Якаўлевіч успамінае: «Увесь час навучання прайшоў для мяне пад знакам адданай працы: не ў прыклад астатнім пеўчым я рэдка пакідаў пяцёрку лепшых вучняў. Гэта атрымалася дзякуючы майму выключнаму стаchoranню і бліскучым здольнасцям. Я ніхто ведаў лацінскую і грэчаскую мовы, любіў стараславянскую, але арыфметыка мне рашуча не давалася... Але горш за ўсё тое, што акрамя падручнікаў я амаль нічога не чытаў, з-за чаго не мог пахваліцца прачытанай навінай, не мог дыскутаваць у сяброўскім асяродку, не валодаў лёгкасцю і пявучасцю мовы, якая атрымоўвалася ў мяне з лацінска-грэчаскімі зваротамі і аддавала славянізмамі. <...> Толькі напрыканцы вучобы, у 1860 годзе прыблізна, я ўхапіўся за безразборнае чытанне — абы чытаць».

Мікалая, як лепшага вучня, у 1861 г. з пахвальным лістом перавялі ў мясцовую духоўную семінарыю. Пасля яе заканчэння настаўнічаў у вёсцы. Сорак тры гады Нікіфароўскі адпрацаваў педагогам, але вышэй пасады настаўніка падрыхтоўчага класа не ўзнімаўся. А знайшоў сябе ў навуцы: з 1871 г. становіцца самым актыўным карэспандэнтам Паўла Шэйна і на працягу дваццаці гадоў дасылае таму выключныя па сваёй каштоўнасці этнаграфічныя матэрыялы. А потым Нікіфароўскі пачынае самастойныя навуковыя даследаванні, у якіх яго падтрымалі вядомыя беларускія фальклярысты Янчук, Карскі, Раманаў, Доўнар-Запольскі. Пачынаючы з 1892 г. ён выдае шэраг нарысаў пад агульнай назвай «Очерки Витебской Белоруссии».

У 1895-м Нікіфароўскі друкуе, бадай, сваю галоўную працу па матэрыяльнай культуры беларусаў XIX ст.: «Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности». Гэтае даследаванне ўпершыню дае яснае бачанне матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці беларускіх сялян. Мікалай Якаўлевіч сцвярджае, што ў сваіх апісаннях ён задаволіўся толькі двума дзесяцігоддзямі ў перыяд рэформы 1861 г., хаця, насамрэч, межы твора значна шырэйшыя.

У прадмове, характарызуючы віцебскага селяніна сярэдзіны XIX ст., Нікіфароўскі піша: «Мужык есць чыста аржаны хлеб, іншы раз пшанічныя пірагі хатняга прыгатавання, зрэдку п'е чай з уласнага самавара, апранаецца ў фабрычныя тканіны, абуваецца ў добрыя боты, жыве ў чыстай хаце з габляванай падлогай, мае нейкую сталярную мэблю, посуд з крамы, выязджае ў майстравым, нават распісным экіпажы, на сытым коніку, упрыгожаным раменнай збруяй — тут усё звычайна, абыдзённа, як і павінна быць».

І няхай гэтае апісанне тычыцца працавітых і заможных сялян, але прыемна, што этнограф адыходзіць ад стэрэатыпу, паводле якога беларускі селянін пазамінулага стагоддзя — забіты, змардаваны цяжкай працай.

Заключны раздзел кнігі Мікалай Якаўлевіч пачынае з паэтычнага ўступу: «Так елася і пілося ў бытаапісваемы час, і такімі прадметамі абіходу абсталёўвалася здавальненне першай жыццёвай патрэбы простага люду Віцебскай Беларусі... З тае пары, падпарадкоўчыся нязменным законам Творцы, зямны шар не адзін раз здзейсняў сваё адвечнае абарачэнне. За гэты час не адзін мільён наземных прадметаў аднавіўся ці змяніў сваё прызначэнне. У згодзе з воляй Творцы здзейсніліся і пэўныя намаганні чалавека: у адным месцы быў ссечаны лес, у другім — высахла балота, у трэцім — нікчэмная пустка пачала даваць смачны пірог, у чацвёртым — «падзоліца» вырабіла тонкую кашулю. Там працягнуліся «жалезныя струны», якія за тысячы вёрстаў з хуткасцю маланкі перадаюць чалавечае слова; тут пабег казачны «конь, пад якім зямля дрыжыць, з вушэй дым валіць, з ноздраў полымя блішчыць», кіруемы воляй чалавека, у завоблачнай вышыні пранёсся «вогненны змей»...Тое, што адбылося з шматмільённай адзінкай сусвету, тое ж у адпаведнай меры адбілася і на яго маленькай часціцы, якой тычыцца гэтае бытаапісанне...»

У 1897 г. у Віцебску выйшла кніга Нікіфароўскага «Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах». У ёй сабрана больш за дзве тысячы (!) прыкмет, прымхаў і забабонаў, некалі распаўсюджаных на Віцебшчыне. Яны ўвабралі ў сябе тысячагадовыя назіранні беларускага народа, і іх галоўная ідэя ў тым, што нічога нельга зрабіць, не адказаўшы пасля за свой учынак.

М. Нікіфароўскі напісаў і падрыхтаваў да друку каля 20 навуковых даследаванняў і апісанняў па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Беларусі, галоўным чынам яе паўночна-ўсходняй часткі — роднай Віцебшчыны. За свае працы ў кастрычніку 1893 г. ён быў узнагароджаны сярэбраным медалём Таварыствам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, а ў кастрычніку 1897-га атрымаў прэмію.



М. Нікіфароўскі шмат зрабіў для абуджэння нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, заклаўшы аснову для вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў. На жаль, з шматтомнай этнаграфічнай, фальклорнай, гістарычнай, краязнаўчай і мовазнаўчай спадчыны Мікалая Якаўлевіча ў савецкі час выйшла ўсяго дзве кнігі: «Странички из недавней старины города Витебска: воспоминания сторожила» і «Нечистики: свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе». Астатняе чакае свайго часу.

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

# Таццяна ХВАГІНА:

# «Тэкст для экскурсіі — тая ж кніга»



**Усё жыццё Таццяны Хвагінай звязана з турызмам. У свой час яна працавала экскурсаводам, метадыстам і кіраўніком турыстычнага бюро. Цяпер — намеснік старшыні Беларускага грамадскага аб'яднання экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў, кіраўнік навукова-даследчай лабараторыі рэгіянальнага турызму Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта, выкладае краязнаўства, экскурсазнаўства і шмат іншых турыстычных дысцыплін, распрацоўвае і праводзіць экскурсіі на самыя розныя тэмы і робіць усё магчымае для развіцця турызму ў Палессі. На рахунку краязнаўцы — навукова-папулярныя кнігі, турыстычныя даведнікі.**

**— Таццяна Аркадзьеўна, распавядзіце пра вашу малую радзіму.**

— Малой радзімай лічу не толькі Баранавічы, але і наваколле — ціхую плынь Мышанкі, навакольныя вёскі і былыя мястэчкі са старажытнымі касцёламі і царквамі. Я ганаруся тым, што тут, у фальварку Завоссе, з'явіўся на свет геніяльны паэт Адам Міцкевіч, тут сцежкі Яна Чачота і Ігната Дамейкі, тут тварыў кавальскія цуды і складаў вершы Паўлюк Багрым.

**— Як пачалі пісаць? Што стала штуршком для творчасці?**

— Выдумляць розныя гісторыі альбо казкі мне падабалася яшчэ ў пачатковай школе. Першая настаўніца Зінаіда Ягораўна Абраменкава ўхваляла маю прагу да творчасці. Таксама — класныя кіраўнікі ў сярэдняй школе № 14, выкладчыкі рускай мовы і літаратуры Валянціна Барысаўна Комач і Ганна Дзмітрыеўна Мельнікава. Калі вучылася на філфаку БДУ, пісала вершы і прозу, часцей штосьці смешнае. Усур'ёз гэтыя літаратурныя спробы я ніколі не ўспрымала і паехала па размеркаванні настаўнічаць на Віцебшчыну.

**— А як вы прыйшлі да турызму?**

— Праз некаторы час вярнулася ў Баранавічы, ды не знайшлося месца ў школе. А хацелася вучыцца далей, цікавіла гісторыя, архітэктура, мастацтвазнаўства, але ў савецкія часы без накіравання ад якой-небудзь установы атрымаць яшчэ адну вышэйшую адукацыю было немагчыма. Даведалася, што Баранавіцкае бюро падарожжаў і экскурсій набірае слухачоў на курсы экскурсаводаў. Гэта быў 1977 год. Курсы ўжо працавалі, але мяне прынялі і нават паабяцалі ўзяць на працу. Справа пайшла, я вучылася і паралельна праводзіла экскурсіі на Вільнюс, Нясвіж, Мір, Навагрудак і, вядома ж, па родных Баранавічах. Праца экскурсавода — вельмі цікавая і цяжкая адначасова.

Дарасла да старэйшага метадыста, вучыла іншых экскурсаводаў, была дырэктарам Пінскага бюро падарожжаў... Усяго, што ўмясціла амаль сорак гадоў турыстычнай працы, не пералічыш. Менавіта Баранавіцкае бюро падарожжаў і экскурсій зрабіла мяне прафесіяналам.

**— Наколькі я ведаю, у свой час гэта адна з найбуйнейшых і паспяховых устаноў.**

— У 1980-я гады Баранавічы былі сапраўдным турыстычным цэнтрам саюзнага значэння. Вось што значыць геаграфічнае становішча! Тут перакрыжоўваліся турыстычныя шляхі на Мінск і Хатынь, Брэст і Белавежскую пушчу, Вільнюс і Гродна. Ад Баранавіч рукой падаць да Нясвіжа, Міра, Навагрудка, Слоніма, Жыровіч. У Баранавічы ехалі аматары вандровак з усіх куткоў СССР. У цэнтры горада новая турыстычная гасцініца «Гарызонт» з рэстаранам. Раніцай з галоўнай плошчы стартавала ў розных кірунках шмат турыстычных аўтобусаў.

*Але хтосьці павінен быў ратаваць экскурсійную справу ад поўнага знішчэння! Такія знайшліся. Зразумелі, што «савецкія экскурсіі» не зусім адпавядаюць патрабаванням часу. Зноў пачалі распрацоўваць тэксты. Дапамагло і веданне польскай мовы: шмат цікавага пра Пінск і Палессе было напісана і выдадзена ў міжваенны час. Зноў пісалі экскурсійныя тэксты, да якіх дадавалі некалькі вершаў і газетных артыкулаў. І толькі ў 2002 годзе мая любоў да Палесся, захапленне гісторыяй Пінска вылілася ў кнігу, якая пабачыла свет пад назвай «Пінск. Чароўная казка Палесся».*

Калектыў бюро падарожжаў на чале з Валерыем Высоцкім шмат рупіўся, каб задаволіць гасцей ды не пакінуць без увагі мясцовае насельніцтва, якому таксама прывівалі смак падарожжаў.

Маленькі метадычны аддзел пад кіраўніцтвам старшага метадыста Соф'і Клімец з удзелам лепшых спецыялістаў пастаянна ўдасканальвалі экскурсіі. Кожны распрацаваны тэкст — гэта тая ж кніга. Добрая экскурсія — толькі палова справы. Баранавічам пашчасціла на такіх таленавітых экскурсаводаў, як Тамара Палятаева, Тамара Варэнік, Лілія Яскевіч, Ала Кібальчыч. А як не ўспомніць нашага старэйшага экскурсавода Людмілу Лобач, яе адмысловы народны гумар і мілагучную родную мову!

**— І вось экскурсійныя тэксты натхнілі на кнігу…**

— Неяк мне ў рукі трапіла кніга Адама Мальдзіса «Беларускі экватар», якая стала ўзорам таго, як можна спалучыць цікавую краязнаўчую інфармацыю і добрую літаратурную форму. Паспрыяла і захапленне творамі Уладзіміра Караткевіча. Часам пераказвала некаторым школьным групам «Дзікае паляванне караля Стаха», канечне ж, не замест экскурсіі, а калі дзеці на зваротным шляху прасілі распавесці што-небудзь цікавае. Ніколі не забуду: да надыходу 1982-га заставалася ўсяго пара гадзін. Мне трэба было пасля экскурсіі ў Нясвіж прасачыць, каб групу школьнікаў з Краснаярска пакармілі і размясцілі ў інтэрнаце. І хутчэй дамоў — за святочны стол. Раптам высветлілася, што з-за аварыі (быў страшэнны мароз) у рэстаране няма святла. Прасілі пачакаць. І вось мы расселіся пад адзіным невялічкім ліхтаром у зале чакання чыгуначнага вакзала. Тут я і пачала свой расповед пра «дзікае паляванне»... Незаўважна вакол сабраліся і іншыя пасажыры. І мне захацелася навучыцца пісаць так, каб было цікава ўсім.

**— Як хутка ўдалося здзейсніць мару?**

— Чакаць прыйшлося больш за дваццаць гадоў. А тады я толькі падзялілася сваёй марай са знаёмым рэдактарам адной газеты, які калісьці клікаў мяне на працу ў далёкі Надым. Ён паспачуваў: жыцця не хопіць, каб без сувязей і падтрымкі выдаць краязнаўчую ці якую іншую кнігу. Так што доўгі час толькі назапашвала веды і займалася «турыстычнай руцінай».

З Баранавіч мяне перавялі ў Пінск дырэктарам бюро падарожжаў і экскурсій, і я засяродзілася на развіцці турыстычнай справы ў палескім краі, дзе багаты патэнцыял ніяк не знаходзіў увасаблення ў цікавы прадукт. Праз некаторы час у сталіцы Палесся адбыўся сапраўдны турыстычны бум. Але праз пяць гадоў не стала ні СССР, ні прывычнага масавага экскурсійнага турызму. Усе кінуліся за мяжу, хто — паглядзець, а найчасцей купіць ці прадаць.

*Малой радзімай лічу не толькі Баранавічы, але і наваколле — ціхую плынь Мышанкі, навакольныя вёскі і былыя мястэчкі са старажытнымі касцёламі і царквамі. Я ганаруся тым, што тут, у фальварку Завоссе, з'явіўся на свет геніяльны паэт Адам Міцкевіч, тут сцежкі Яна Чачота і Ігната Дамейкі, тут тварыў кавальскія цуды і складаў вершы Паўлюк Багрым.*

Але хтосьці павінен быў ратаваць экскурсійную справу ад поўнага знішчэння! Такія знайшліся. Зразумелі, што «савецкія экскурсіі» не зусім адпавядаюць патрабаванням часу. Зноў пачалі распрацоўваць тэксты. Дапамагло і веданне польскай мовы: шмат цікавага пра Пінск і Палессе было напісана і выдадзена ў міжваенны час. Пісалі экскурсійныя тэксты, да якіх дадавалі некалькі вершаў і газетных артыкулаў. І толькі ў 2002 годзе мая любоў да Палесся, захапленне гісторыяй Пінска вылілася ў кнігу, якая пабачыла свет пад назвай «Пінск. Чароўная казка Палесся».

Аднойчы мне патэлефанаваў старшыня Беларускай асацыяцыі экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў Мікола Чыркі, які ў той час працаваў кансультантам у Міністэрстве спорту і турызму. Сказаў, што некалькі сталічных выдавецтваў адгукнуліся на прапанову прысвяціць старажытным гарадам Беларусі, у тым ліку і Пінску, годныя альбомы. Далі згоду і на тое, што аўтарамі будуць экскурсаводы, але толькі ў тым выпадку, калі змогуць напісаць нешта вартае. Мне выпала супрацоўнічаць з выдавецтвам «Універсітэцкае», якое, пакуль выйшла кніга, аб'ядналася з выдавецтвам «Вышэйшая школа». Узрушаная прапановай, я памчала ў Мінск, каб абмеркаваць будучую кнігу. Выданне будзе на беларускай мове, яшчэ на рускай і англійскай. Напісала так хутка, што сама здзівілася. Быццам кніга ўвесь час «сядзела» ў галаве — заставалася толькі пакласці перад сабой аркуш паперы... Але невядома, што скажа выдавецтва… Адвезла рукапіс у Мінск, аддала рэдактару Ганне Уладзіміраўне Новікавай. Раніцай наступнага дня пачула: «Усё добра, галоўнаму рэдактару спадабалася!». Так мне далі пуцёўку ў літаратурнае жыццё. За першай кнігай пайшла другая — «Палессе ад Буга да Убарці», трэцяя...

**— Чытач ваш першы твор прыкмеціў?**

— Так, я стала шчаслівым аўтарам кнігі, папулярнай у жыхароў Пінска. Важную ролю адыгралі і прыгожыя здымкі фотамастака Алега Бабінца. Выдавецтва планавала, што кніга затрымаецца на паліцах некалькі гадоў, а ўвесь тыраж разышоўся за пару месяцаў. Патрыятычныя пінчукі нават шукалі яе ў іншых гарадах. І паляцелі кнігі ў ЗША і Канаду, паехалі ў Польшчу і Ізраіль да родных ды знаёмых. Часам людзі падыходзілі проста на вуліцы і дзякавалі за кнігу. Некаторыя нават рабілі экскурсіі па мясцінах, якія трапілі на старонкі выдання...

**— Вы пішаце пра гісторыю краю, вядомых асоб, што ўславілі Палессе, пра архітэктурныя помнікі, багатую этнаграфічную спадчыну. А як сталася, што закранулі яўрэйскую тэму?**

— У Пінска шмат цікавых старонак, звязаных з яўрэйскай гісторыяй. Вуліцамі старога горада ў свой час хадзілі гімназіст Хаім Вейцман — першы Прэзідэнт Ізраіля і кухарава дзяўчынка Голда Мабовіч, потым вядомая як Прэм'ер-міністр Ізраіля Голда Меер. І, як заўсёды, спачатку былі экскурсіі па яўрэйскіх мясцінах Пінска і Палесся, а потым — праца разам з іншымі аўтарамі над кнігай «Халакост на Піншчыне». Мне давялося рабіць літаратурную апрацоўку ўспамінаў Іцхака Южука, лёс якога ўвабраў у сябе ўсю трагедыю і волю да жыцця яўрэяў-літвакоў, якія мірна жылі на Палессі каля 500 гадоў і сталі ахвярамі фашысцкага генацыду. Гэта была цяжкая праца. Часам не магла спаць — жахліва ад таго, што пачула пра рабочы яўрэйскі лагер у Ганцавічах, уцёкі яго вязняў, пагосцкае гета…

**— А новыя праекты — на чарзе?**

— Так, заўсёды памятаю пра аматараў падарожжаў, іх патрэбы і пра тое, што без цікавых кніг, даведнікаў і фотаальбомаў турызму і экскурсій не будзе. Спадзяюся, чытачам спадабалася кніга «Ад Белавежскай пушчы да палескіх балот», створаная разам з экскурсаводам і краязнаўцам Анатолем Варавам. Перапрацавала выданне «Пінск — сэрца палескага краю». Пішу даведнікі і артыкулы. Шмат планаў. Можа быць, дойдзе справа і да няскончанага эсэ, прысвечанага маім вандроўкам па свеце. А можа, перайду на казкі. Шмат іх у свой час склала для сваёй дачушкі, засталося толькі перанесці на паперу.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

# Вандроўныя шэдэўры

**Каб наведаць Траццякоўскую галерэю, цяпер неабавязкова ехаць у Маскву. Знакамітыя палотны рускіх майстроў прадстаўлены на выставцы «Ад рэалізму да імпрэсіянізму» ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.**



Іван Шышкін «Папараць у лесе. Сіверская». 1883 г.

Гэта трэці сумесны праект двух музеяў за апошнія дзесяць гадоў. Вынікі першага — «Шэдэўры Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі» — Мінск пабачыў у 2003 годзе. Праз чатыры гады мінчанам прадставілі яшчэ адну навінку — выстаўку «Палоннікі прыгажосці» з фондаў расійскай галерэі. Цяперашняя экспазіцыя — адна з галоўных культурных падзей краіны ў 2015-м. Усе творы прыехалі ў Мінск упершыню. Карціны, дарэчы, узятыя не з запаснікаў, — многія зняты са сцен пастаяннай экспазіцыі.

Кожны «візіт» Траццякоўскай галерэі — гонар для любога музея. Сапраўды, калекцыя рускага мастацтва, якая фарміравалася яшчэ да рэвалюцыі, — самая значная ў свеце калекцыя рускага мастацтва. Аднак і Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь ёсць чым падтрымаць гасцей!

Так Траццякоўка прывезла ў Мінск «Бярозавы гай» Архіпа Куінджы — палатно, якое стала адкрыццём для наведвальнікаў выстаўкі Таварыства перасоўнікаў у 1879 годзе. А ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ёсць брат-блізнюк гэтага шэдэўра — карціна з той жа назвай, напісаная А. Куінджы ў 1901 годзе.

Упершыню сустрэліся ў адным месцы і дзве карціны Ільі Рэпіна: «На сонцы» ды «Месячная ноч». Палотны аб'ядноўвае і іх гераіня — дачка мастака Надзея Рэпіна. Сваіх чацвярых дзяцей майстар пісаў шмат. Надзея была другой дачкой. Падчас разводу І. Рэпін і яго першая жонка падзялілі дзяцей, і старэйшыя Вера і Надзея засталіся жыць з бацькам. Часта бывалі яны і ў сядзібе Здраўнёва пад Віцебскам: мастак купіў яе ў 1892 на ганарар, атрыманы ад Аляксандра III за карціну «Запарожскія казакі пішуць ліст турэцкаму султану». Лёс Надзеі (маркуючы па шматлікіх партрэтах, яна



Фердынанд Рушчыц «Вясна». 1897 г.



Ілья Рэпін «На мяжы. В. А. Рэпіна з дзецьмі ідзе па мяжы». 1879 г.

была прыгажуняй), стаўся трагічным. На палатне, якое прыехала з Траццякоўкі, Надзеі 26. А праз 10 гадоў яна захварэла, як тады казалі, нервовым расстройствам.

«Наша» карціна «Месячная ноч» была ў прыватнай калекцыі маскоўскага калекцыянера В. Трэскіна. Для беларускага музея ў 1956 годзе яго купіла ў калекцыянера Алена Аладава, якая пасля вайны, па сутнасці, зноўку аднаўляла калекцыю музея. У кожнай з карцін І. Рэпін вырашаў яшчэ і праблемы асвятлення — таямнічае месячнае або яркае сонечнае святло. Вынік у абодвух выпадках бліскучы.

Рускае мастацтва, безумоўна, прасякнута нацыянальным духам. Выяўляецца гэта ў колеры, у форме, у паэтычнасці кампазіцыі. На выстаўцы «Ад рэалізму да імпрэсіянізму» прадстаўлены 79 работ — Саўрасаў, Рэпін, Шышкін, Каровін, Грабар...

Варта звярнуць увагу на тое, як старанна праведзены адбор карцін і мастакоў. Іван Шышкін — бліскучы пейзажыст, гэтым ён і славіўся. У яго работах ёсць найтанчэйшае адчуванне роднай прыроды. Яе паэтыка ўвасабляецца ўсёй сілай рэалізму.

А вось іншы па настроі, па каларыстыцы заснавальнік рускага імпрэсіянізму Канстанцін Каровін. Карціны мастака выкананы эцюдным адчуваннем маментальнасці. Жывапісец вучыўся перадаваць уражанне непасрэдна ў Францыі, засвойваючы рысы руху імпрэсіяністаў. Аднак, калі Ван Гог або Гаген (прыхільнікі гэтай плыні жывапісу, але з прыстаўкай «пост») ішлі па шляху формы, то Каровін унутраным спалучэннем колераў, рэалізмам і дакладнасцю тэхнікі перадаваў змест.

Адна з самых вядомых карцін Васіля Паленава даехала да Мінска таксама ўпершыню. Вядома, што ў чэрвені 1877 г. мастак пераехаў з Санкт-Пецярбурга ў Маскву і стаў здымаць кватэру на рагу Малога Талстоўскага і Трубнікоўскага завулкаў каля царквы Спаса на Пясках. З акна сваёй кватэры ён і напісаў эцюд да пейзажа «Маскоўскі дворык». Крыху пазней гэтую карціну В. Паленаў адправіў у Санкт-Пецярбург на выстаўку мастакоў-перасоўнікаў 1878 г. Праца мела велізарны поспех, і адразу пасля экспазіцыі для сваёй галерэі яе набыў Павел Траццякоў.

Варта падкрэсліць, што ў Нацыянальны мастацкі музей «прыехалі» і ўраджэнцы Беларусі. Станіслаў Жукоўскі — адна з найбольш значных фігур рускага імпрэсіянізму — нарадзіўся ў Гродзенскай губерні. У яго мяккіх пейзажах унутраная экспрэсія прарываецца колерам і асядае пачуццём лёгкай адзіноты.

Фердынанд Рушчыц, выхадзец з Мінскай губерні, вучань І. Шышкіна і А. Куінджы, — пейзажыст-сімваліст. Тонкі сімвалізм яго прац увасоблены гульнёй з акадэмічнай тэхнікай жывапісу. Дыпломны твор мастака, напісаны ў 1897-м у беларускім маёнтку Багданава, таксама часова пераехаў з Траццякоўкі ў Мінск. «Вясну» для сваёй калекцыі Павел Траццякоў набыў асабіста. Пагаворваюць, калекцыянер быў вялікім прыхільнікам творчасці нашага суайчынніка.

Нягледзячы на тое, што Ф. Рушчыц — ураджэнец беларускай вёскі, з твораў майстра на радзіме захоўваецца толькі дзве працы — «Ля касцёла» ў Нацыянальным мастацкім музеі, і пейзаж «Хлеў і прасла для сена», які ў красавіку гэтага года папоўніў карпаратыўную калекцыю Белгазпрамбанка.



Сяргей Вінаградаў «Ля капліцы». 1892 г.

Жывапіс Траццякоўкі — гэта не строгі акадэмізм, з якім у тую ці іншую эпоху змагаецца маладое пакаленне мастакоў, гэта штосьці настолькі жывое, нібы жывыя да гэтага часу самі мастакі.

**Таццяна ШЫМУК**


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

**Намеснік галоўнага рэдактара**
**Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 17.09.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 2038.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1489 г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12